


# Рэгіянальная газета

8 лютага 2013 года
№ 6 (928)
Тэлетыдзень
http://rh.by
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

Абраны праект помніка Максіму Танку ў Мядзеле

2-я старонка



Месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2013 год

20-21-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Мінімальны бал на ЦТ павысяць сёлета

Ад 2013 года павысіцца мінімальны бал па выніках цэнтралізаванага тэставання, з якім абітурыенты змогуць падаваць дакументы ў ВНУ, паведамляе БелТА. Па такіх прадметах, як руская і беларуская мовы, матэматыка, фізіка, хімія, біялогія, плануецца ўстанавіць мінімальнае значэнне 15 балаў. Па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі найноўшага часу, грамадазнаўстве, геаграфіі і замежнай мове – 20 балаў. Калі балы, атрыманыя абітурыентамі, не дацягнуць да гэтых значэнняў, яны будуць лічыцца непраходнымі для прыёмнай камісіі ВНУ.

## Праходзіць месячнік сямейнага выхавання

**МЯДЗЕЛ.** З 1 па 28 лютага на Мядзельшчыне праходзіць месячнік сямейнага выхавання "У коле сям'і нараджаецца душа". Падчас яго адбудуцца пасяджэнне бацькоўскага клуба "Разбураем стэрэатыпы", "круглыя сталы" з бацькамі, свята "Усё пачынаецца з сям'і". Пройдуць выставы, фотавыставы, конкурсы малюнкаў, сачыненняў – усё на тэму сям'і. Выберуць лепшую цацку, зробленую сумесна з бацькамі. Завершыцца месячнік раённым бацькоўскім сходам.

## Міжнародны роварны маршрут пройдзе па Гродзеншчыне

**АШМЯНЫ.** Сетка роварных маршрутаў будзе пракладзеная ў Гродне і Ашмянах. Пра гэта паведаміў **Сяргей Каляда**, прадстаўнік Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Рэспубліканскі турыстычна-спартыўны саюз". Праект ужо зацверджаны Саветам Міністраў. Фінансуе яго Еўрапейскі Саюз, паведамляе БелТА. Пракладванне дарожак пачнецца адразу пасля падпісання дамовы літоўскім бокам і працягнецца 18 месяцаў. Маршруты будуць пазначаныя турыстычнымі знакамі, некаторыя часткі дарогі будуць упрыгожаныя малымі скульптурнымі формамі. Дарожкі, даўжыня якіх у Беларусі складзе 30,5 кіламетра, аб'яднаюць памежныя гарады: Гродна і Ашмяны з беларускага боку, Аліту і Бірштаны – з літоўскага.

## У Вілейцы інвалід зваліўся ў калодзеж

**ВІЛЕЙКА.** Здарэнне адбылося 5 лютага ўвечары па вуліцы Стаханаўскай. Мужчыну 50 гадоў, ён інвалід 3-й групы. Паводле афіцыйнага сайта Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, ён быў нецвярозы і пайшоў па ваду. Па неасцярожнасці зваліўся ў калодзеж. Калодзеж глыбінёй чатыры метры. Выратавальнікі яго выцягнулі пры дапамозе лесвіцы. З папярэднім дыягназам "агульнае пераахаладжэнне" мужчыну даставілі ў бальніцу. Яго стан здавальняючы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Ці дапамогуць шведы аднавіць замчышча?



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Замчышча пустуе ўжо больш за два стагоддзі. Цяпер на шляху яго аднаўлення стаяць юрыдычныя перашкоды.

**МАЛАДЗЕЧНА. Дэлегацыя са Швецыі наведала Маладзечна ў канцы студзеня. У сумесных планах партнёраў – адкрыць гісторыка-культурны цэнтр "Маладзечанскі замак".**

Скандынаўскія госці Арнэ Элефорс і Рогер Хэлквіст прадстаўляюць шведска-беларускую бізнес-асацыяцыю. У Беларусь яны завіталі не ўпершыню.

– Прадстаўнікі асацыяцыі ўжо рэалізоўвалі праекты ў нашай краіне, – кажа **Павел Сапоцька**, намеснік дырэктара па культуры прадпрыемства "Бізнес-Цэнтр Саюз-Партнёр". – На Віцебшчыне яны дапамагалі ў рэканструкцыі шляху "з варагаў у грэкі".

Праект прэзентавалі старшыні райвыканкама **Фёдару Дамаценку**. У спецыяльную працоўную групу ўвайшла намесніца старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Наталля Нікіценка**.

– Да працы з замчышчам мы будзем прыцягваць усіх неабходных спецыялістаў, – каментуе Павел Сапоцька. – Ужо ёсць дамова з **Ірынай Ганецкай**, супрацоўніцай Інстытута гісторыі Акадэміі навук.

Праца на замчышчы павінна пачацца сёлета. Урачыстае адкрыццё гісторыка-культурнага комплексу запланаванае на 2015 год, калі беларусы будуць адзначаць 250-годдзе з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Аўтарам праекта "Маладзечанскі замак" стаў **Мікалай Тамашэўскі**.

Паўную суму выдзеліць дзяржаўны бюджэт у межах праекта "Замкі Беларусі".

### Рэалізацыя праекта – пад пытаннем

Праект замчышча ўжо існуе, але сам яго аўтар сумняваецца ў тым, што праца скончыцца ў 2015 годзе.

– Цяпер праект часова спынены, – кажа Мікалай Тамашэўскі. – Існуе дэкрэт Прэзідэнта, які кантралюе выдачу зямлі пад інвестыцыйныя праекты. У выпадку "Маладзечанскага замка" не ўсё так гладка. Трэба, каб дакументы перагледзела Міністэрства юстыцыі і іншыя заканадаўчыя органы. Гэта не робіцца за пару тыдняў. Таму я не стаў бы казаць, што прадбачу пазітыўныя змены. Колькі гадоў ужо займаемся замчышчам, а на практыцы зменаў пакуль няма.

Праект спадара Мікалая дэталёва распрацаваны. Акрамя замчышча, у яго ўваходзіць кавярня, гасціны двор, музей гісторыі Маладзечанскага замка. У музеі аўтар плануе выставіць макеты, на якіх будуць паказаныя змены замка, а таксама партрэты ўсіх гаспадароў.

### Добры праект заўсёды каштуе дорага

Па каментар "РГ" звярнулася і да намесніцы старшыні Маладзечанскага райвыканкама.

– На маю думку, праекты, якія прапаноўваюцца цяпер, вельмі дробныя, – кажа Наталля Нікіценка. – Трэба памятаць, што замчышча знаходзіцца на самым уездзе ў горад. Вядома, асоба Агінскага вельмі важная для нашага рэгіёна, і ўсё, звязанае з яго імем, варта развіваць. Але на годны праект трэба патраціць неверагодную суму грошай. Сучасны турыст патрабуе камфорту і зручнасці.

Да таго ж свае карэктывы ўносіць і заканадаўства: палажэнне аб інвестыцыйных праектах яшчэ разглядаецца. Невядома, якія прапановы будуць прынятыя і як яны паўплываюць на далейшы лёс замчышча.

Цягам лютага будуць вырашаныя фінансавыя пытанні, а таксама ўстаноўленыя канкрэтныя тэрміны працы.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ПАМЯЦЬ

# Абраны праект помніка Максіму Танку

**МЯДЗЕЛ. У мінулым нумары "РГ" паведамляла, што ў Мінску адбылося пасяджэнне журы конкурсу эскізных праектаў помніка Максіму Танку. У пасяджэнні прымалі ўдзел і прадстаўнікі Мядзельшчыны.**

На суд журы прадставілі чатыры праекты помніка. На двух з іх паэт адлюстраваны седзячы, яшчэ на двух – стоячы. Адным з варыянтаў было паказаць паэта на парозе бацькоўскай хаты, яшчэ адным – калі ён стаіць на камяні.

У выніку журы адобрыла вось гэты праект (на здымку ). Яго аўтары – скульптары **Аляксандр Фінскі** і **Іван Міско** і архітэктар **Армен Сардараў**. Паэт паказаны ў момант, калі ідзе па брукаванцы. Яна ўвасабляе шлях жыцця песняра, сугучны з вершам "Камяні" (твор напісаны ў 1946 годзе).

– Чаму менавіта гэты праект выбрала журы? – запытаў у намесніка начальніка упраўлення культуры Мінаблвыканкама **Святланы Баранок**.

– На мой погляд, таму, што ён выглядае найбольш сучасна з прапанаваных, – адказала яна. – І адлюстроўвае сутнасць Максіма Танка як паэта, грамадзяніна, чалавека.

У бліжэйшы час аўтары праекта будуць дапрацоўваць дэталі ў прывязцы да мясцовасці. Помнік з натуральнага каменя і бронзы плануюць устанавіць сёлета. Размесціцца ён на рагу вуліцы 17 Верасня і плошчы Шаранговіча ў Мядзеле, непадалёку ад гарадскога Дома культуры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Ганнай ПАДГОЛ.

**Эскізны праект помніка Максіму Танку скульптараў Аляксандра Фінскага і Івана Міско і архітэктара Армена Сардарава.**

**Максім Танк**
**Камяні**

*Гасцей чакаў я, і яны*
*Загрукалі ў парог –*
*Усе камяні, ўсе валуны*
*Крутых маіх дарог.*
*На іх усіх сляды былі*
*Маіх юнацкіх сноў;*
*Па іх усіх шрамы ляглі*
*Ад хмар і ад вятроў.*
*Я кожны камень пазнаваў:*
*Калі сустрэў яго,*
*Калі на ім адпачываў,*
*Начлежны клаў агонь.*
*Вось гэты – ў роднай старане*
*Быў пад акном маім;*
*Вось гэтым – кінулі ў мяне*
*І след крыві на ім.*
*Але адзін валун з усіх*
*Мне незнаёмым быў.*
*Хто ён, адкуль, з дарог якіх*
*Няпрошаны прыбыў?*
*Адно, па снежнай белізне,*
*Па тым, як ён дыхнуў*
*Сцюдзёным змрокам на мяне*
*І ў сэрца заглянуў, –*
*Я здагадаўся, што за госць*
*І чаркай прывітаў.*
*– Калі прышоў ты, ягамосць,*
*Дык пі! – яму сказаў.*
*Вось толькі нам няма аб чым*
*З табою гаварыць:*
*Я ўжо дамовіўся ўначы*
*З вятрамі у бары,*
*З жывой птушынаю сям'ёй,*
*З расталаю вадой*
*І з громам, каб яны вясной*
*Узялі мяне з сабой.*

*1946*

КОНКУРСЫ

# Бацькі ўдзельнічалі ў кулінарным паядынаку

**МАЛАДЗЕЧНА. У чацвер у цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў прайшоў конкурс на лепшы торт.**

У ім прымалі актыўны ўдзел бацькі дашкольных груп і класаў, групы для заняткаў у прысутнасці бацькоў. І праходзіў ён у два этапы: тэарэтычны і практычны.

Мамы разбіліся на дзве каманды – "Божая кароўка" і "Фантазёры". У першым этапе яны змагаліся паміж сабой у веданні прымавак і песень на кулінарныя тэмы. У другім – падрыхтавалі прыгожыя торты і праспявалі прыпеўкі, якія былі на тэму ежы.

Выхаванцы падчас прыгатавання салодкіх шэдэўраў падтрымлівалі сваіх мам і дапамагалі атрымаць больш балаў.

Мамы ж гатавалі торты з гатовых каржоў, але яны вельмі адрозніваліся паміж сабой. Нават па назвах. Адзін торт называўся "Ягада на снезе", а другі – "Салодкая палянка".

Конкурс завяршыўся дэгустацыяй тортаў і правядзеннем сумеснага чаявання ў групах і класах.

Мамы былі ўзнагароджаныя медалямі.

Пра гэта паведаміла нашаму выданню арганізатар мерапрыемства настаўнік-дэфектолаг **Інэса Красько**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Папраўка

У мінулым нумары "Рэгіянальнай газеце" дапушчаная недакладнасць у артыкуле "Угодкі Дуніна-Марцінкевіча адзначаць на Валожыншчыне".

Дырэктар раённага цэнтра культуры – Алена Конаўка.

Просім прабачэння ў Алены Іванаўны і чытачоў.

**Рэдакцыя "РГ".**

ПРАДУКТЫ

# Экзатычныя прадукты на нашых прылаўках

**МАЛАДЗЕЧНА. На прылаўках становіцца ўсё больш і больш тавараў, не толькі знешні выгляд якіх нам ні пра што не кажа, але нават назва не выклікае ніякіх асацыяцый.**

"РГ" склала спіс некалькіх дарагіх і незвычайных прадуктаў з маладзечанскіх крамаў. Гэтыя прадукты дарагія, але яны ўтрымліваюць карысныя рэчывы ў вялікай колькасці.

### Экзотыка на прылаўках: мангастан

У адной з маладзечанскіх крамаў я знайшла незнаёмы для мяне фрукт. Мангастан (ён жа мангасцін, мангусцін).

Дзякуючы цікавай форме і белай далікатнай мякаці гэты экзатычны фрукт карыстаецца вялікай папулярнасцю як у сябе на радзіме ў Паўднёва-Усходняй Азіі, так і па ўсім свеце.

Вынікі даследаванняў сцвярджаюць, што экстракт лупіны мангастана здольны знішчаць ракавыя клеткі пры такіх відах раку, як рак малочнай залозы, рак печані і лейкемія.

### Сыр "Ракфорці" з блакітнай цвіллю

Маладзечанскі сыр з блакітнай цвіллю, выраблены па рэцэптуры айчынных навукоўцаў, з'явіўся ў продажы не так даўно.

У параўнанні з французскімі аналагамі "Ракфорці" больш цвёрды і мае саленаваты смак. Абазнаныя людзі раяць есці яго з зялёным вінаградам.




Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Рыба палтус у чатыры разы даражэйшая за звычайную.

### Рыба — больш за 200 тысяч

Палтус – смачная марская рыба, мяса якой практычна без касцей і мае больш за 5% тлустасці.

Мяса палтуса мае каштоўныя тлустыя кіслоты Амега-3, якія нармалізуюць абмен рэчываў у чалавечым арганізме.

У палтусе змяшчаецца сем амінакіслот, якія адыгрываюць не менш важную ролю ў барацьбе з ракавымі захворваннямі.

### Мяса крэветкі

Крэветкі – гэта скарбніца бялку і мінеральных элементаў. У крэветках ёду амаль у сто разоў больш, чым у ялавічыне.

Крэветкі ўтрымліваюць кальцый, карысны для работы шчытападобнай залозы, імунный сістэмы. Калій незаменны для сардэчна-сасудзістай сістэмы.

Цынк уплывае на сінтэз гармонаў, паляпшае стан скуры, пазногцяў. Сера таксама важная для скуры, валасоў і пазногцяў, а таксама павышае імунітэт і зніжае алергічныя рэакцыі.

### Сушы табіко ўрамакі

Сушы – японская закуска, якая стала дастаткова папулярнай у Маладзечне.

Адна з разнавіднасцяў сушы – урамакі, сярэдняга памеру рулеты з двума або больш відамі начынак.

Урамакі адрозніваюцца ад іншых тым, што рыс знаходзіцца звонку, а норы (ліст водарасці) – унутры. Начынка пасярэдзіне, акружаная пластом норы. Пасля ідзе рыс, зверху – ікра табіко (ікра лятучай рыбы) альбо падсмажанае кунжутнае насенне.



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

| Курсы валют НБ РБ | 31.01 | 7.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 630.00 | **8 680.00** |
| Еўра | 11 660.00 | **11 770.00** |
| Злоты | 2 788.41 | **2 812.47** |
| Літ | 3 376.04 | **3 403.12** |
| Расійскі рубель | 287.50 | **289.50** |
| Грыўня | 1 060.13 | **1 065.88** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8600/8660 | **8640/8690** |
| Еўра | 11580/11700 | **11650 /11790** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.01 | 6.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110500 | **111750** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 44750 | **44950** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 55000 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85900 | **88000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 27900 | **25900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 22700 | **22850** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32000 | **32900** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10700 | **10700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9950 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | **10100** |
| **Алей** | 16500 | **16400** |
| **Маянэз**, 200 г | 4600 | **4800** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7600 | **7900** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9300 | **9600** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Капуста**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Морква**, 1 кг | 4000 | **3800** |
| **Буракі**, 1 кг | 3500 | **3500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18000 | **18500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14000 | **15900** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 16500 | **16000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 26000 | **27000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 25000 | **29000** |
| **Перац**, 1 кг | 28000 | **33000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 23500 | **23000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13500 | **15500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 5000 | **6000** |
| **Грушы**, 1 кг | 18000 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 34000 | **34000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 18000 | **18000** |
| **Сала**, 1 кг | 56000 | **55000** |
| **Бульба**,1 кг | 2500 | **2000** |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **60000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД



Фота tomasiki.net.

Маладзечанец выкладваў прадукты ў багажнік, калі яго збіў смаргонец.

# Смаргонец выплаціць 20 мільёнаў маладзечанцу

**МАЛАДЗЕЧНА. СМАРГОНЬ. Суд над 22-гадовым смаргонцам, які збіў пешахода ў Маладзечне, скончыўся на мінулым тыдні.**

Здарэнне адбылося ў жніўні 2012 года. Абвінавачаны парушыў правілы дарожнага руху, калі перастройваўся на правую паласу, рухаючыся па Вялікім Гасцінцы ў накірунку Смаргоні.

Ён не пралічыў сітуацыю і наехаў на маладзечанца, які стаяў ля прыпаркаванай на ўзбочыне машыны і ў той момант выкладваў прадукты ў багажнік. Моцным ударам яго прыціснула да машыны. Пацярпелы трапіў у бальніцу з цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі: у яго быў пералом нагі ў некалькіх месцах, параненая рука.

Як высветлілася, раней смаргонец не парушаў правілаў дарожнага руху, а ў момант здарэння быў цвярозы. Яго стаж за рулём – тры гады. Адразу пасля здарэння абвінавачаны сам выклікаў "хуткую дапамогу" і супрацоўнікаў ДАІ. На судзе сваю віну ён прызнаў.

Суд прызнаў смаргонца вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху, якія прывялі да цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Следчы эксперымент паказаў, што смаргонец меў тэхнічную магчымасць своечасова спыніць машыну і пазбегнуць наезду на чалавека. Яго машына знаходзілася ў добрым стане.

Таксама ўлічана і тое, што раней абвінавачаны не трапляў пад суд, мае гадавалую дачку, добрыя характарыстыкі з працы і да таго ж сам прызнаў сваю віну.

Маладзён са Смаргоні мусіць выплаціць пацярпеламу кампенсацыю ў 20 мільёнаў рублёў за маральную шкоду. У выніку здарэння маладзечанец атрымаў другую групу інваліднасці, доўгі час правёў у бальніцы і працягвае лячыцца цяпер.

Да гэта дадаецца сума дзяржпошліны і аплаты юрыдычнай дапамогі пацярпеламу – гэта яшчэ 700 тысяч рублёў.

Акрамя таго, смаргонец будзе ўмоўна пазбаўлены свабоды на два гады.

**Сяргей ГАБРУКОВІЧ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Украў тэлефон за 600 тысяч, штраф – пяць мільёнаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Крадзеж адбыўся апоўначы 11 лістапада 2012 года.**

24-гадовы маладзён знаходзіўся ў адным з пакояў у кватэры дома па вуліцы 17 Верасня. Ён быў п'яны.

У гэтым жа пакоі на канапе спаў яшчэ адзін маладзён. Свой мабільны тэлефон той паклаў побач на стале.

Скарыстаўшыся момантам, 24-гадовы тэлефон украў.

Мабільнік разам з сімкартай і футаралам каштуе больш за 600 тысяч рублёў. Скрадзенае вярнулі гаспадару.

Суд прызнаў маладзёна віноўным і прызначыў пакаранне ў выглядзе штрафу памерам 50 базавых велічынь (пяць мільёнаў рублёў). У адносінах да 24-гадовага абвінавачанага суд пастанавіў прымяніць прымусовае лячэнне ад хранічнага алкагалізму.

Абвінавачаны нарадзіўся ў Маладзечне. Мае сярэднюю адукацыю. Раней не судзімы.

У яго два сыны – двух гадоў і пяці. Разведзены.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**



Фота luganews.com.

Калі гаспадар спаў, маладзён украў яго тэлефон са стала.



ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Дзве аварыі за 20 хвілін ля Крыніцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзве дарожна-транспартныя аварыі здарыліся на працягу 20 хвілін раніцай у пятніцу, 1 лютага, ля Крыніцы пад Маладзечнам.**

Двум чалавекам аказаная медыцынская дапамога ў раённай бальніцы. На дарожнікаў ДЭУ-63 складзены адміністрацыйны пратакол за неналежны стан дарогі.

У абодвух інцыдэнтах разам удзельнічала пяць аўтамабіляў. У абодва бакі ўтварыўся затор на некалькі кіламетраў. Рух быў перакрыты цалкам прыкладна на паўгадзіны. Пра гэта паведаміў інспектар ДАІ.

Першае здарэнне адбылося прыкладна ў сем гадзін раніцы. Вадзіцель мікрааўтобуса "Мерседэс-Бэнц", які рухаўся ў кірунку Мінска, няправільна выбраў хуткасны рэжым, і аўтамабіль пачало заносіць на дарозе. Урэшце ён з'ехаў на абочыну.

Жанчына-кіроўца "Вольвы" S-80, якая рухалася за мікрааўтобусам, не змагла своечасова зарыентавацца. У выніку адбылося сутыкненне. Пацярпелі два пасажыры "Вольвы", якія пасля аказання ім дапамогі былі адпушчаныя з бальніцы.

Праз 20 хвілін пасля першага здарэння, за 50 метраў перад ім, адбылося яшчэ адно ДТЗ. У ім былі задзейнічаны тры аўтамабілі, якія таксама рухаліся ў накірунку Мінска. Ніхто з удзельнікаў аварыі сур'ёзна не пацярпеў. Але ў гэтым выпадку значная шкода нанесеная аўтамабілям, сказаў "РГ" **Сяргей Бартош**.

Удзельнікамі другога здарэння былі "Фіят-Дуката" (33-гадовы кіроўца), "Сеат-Таледа" (57-гадовы кіроўца) і "Ровэр" (31-гадовая жанчына-кіроўца).

**Аддзел інфармацыі.**

## Змяніўся накірунак руху па вуліцах Крынічнай і Дудко

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 4 лютага змяняецца накірунак руху па вуліцах Тамары Дудко (каля будынка дзяржаўтаінспекцыі) і Крынічнай.**

Заклікаем усіх кіроўцаў пры праездзе праз скрыжаванне быць пільнымі!

**Сяргей БАРТОШ, інспектар дзяржаўтаінспекцыі Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

СЛУЖБА 101

## Стартуе акцыя "Бяспечнасць у кожны дом"

**МАЛАДЗЕЧНА. Пад такой назвай ад 4 па 28 лютага ў Маладзечне пройдзе прафілактычная акцыя, мэта якой – папярэджанне пажараў і гібелі людзей.**

Бо пажар у кватэры ці доме ў большасці выпадкаў – вынік бестурботнасці і няведання элементарных правіл бяспекі.

Мерапрыемства складаецца з чатырох этапаў. Першы этап праходзіць 4-8 лютага на прадпрыемствах і ў арганізацыях Маладзечанскага раёна.

Наступны пройдзе 11-15 лютага з навучэнцамі каледжаў. Трэці – 16 лютага ў раёне вакзала, рынкаў, у тых месцах, дзе збіраецца шмат людзей.

Апошні этап пройдзе 18-28 лютага ў дашкольных і школьных установах.

Жыхароў горада чакае не проста прапаганда асноў бяспекі жыццядзейнасці, а сапраўднае свята. Для графічнага і інфармацыйнага афармлення акцыі распрацаваны спецыяльныя відэафільмы.

У школах пройдуць тэматычныя дыскатэкі.

Супрацоўнікі па надзвычайных сітуацыях разам з аддзелам культуры будуць даваць канцэрты.

У арганізацыях і агульнаадукацыйных установах правядуць пазнавальныя віктарыны і конкурсы.

Акрамя таго будзе праведзеная і радыёвіктарына. Пра гэта распавяла нашаму выданню інспектар прапаганды і навучання Маладзечанскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Марына Ермакова**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

 



НАШЫ ГРОШЫ

# Хто выйграў – Іваноўскія ці Субачы?

## Ці выгадна ўстанаўліваць шматтарыфны лічыльнік

**МАЛАДЗЕЧНА. Наколькі і каму выгадна ўстанаўліваць сучасныя шматтарыфныя электралічыльнікі, вырашыла разабрацца “Рэгіянальная газета”.**

Каб прасцей уяўляць сітуацыю, возьмем, да прыкладу, дзве сям’і, якія жывуць у звычайных кватэрах. Адна, Іваноўскіх, карыстаецца лічыльнікам па дыферэнцыяваных тарыфах, а другая, Субачаў, – традыцыйным аднатарыфным. І правядзём разам з імі ўмоўныя разлікі.

Дапусцім, што Іваноўскія і Субачы ў сярэднім за месяц спажываюць па 180 кілават у гадзіну электраэнергіі за месяц.

**Як паведаміў дзяржаўны інспектар Вілейскага энерганагляду Ігар Місюль, у Вілейцы і Мядзеле за 2012 год сярэднямесячнае спажыванне электраэнергіі зарэгістраванымі абанентамі складае 81 кВт/гадзіну. Нізкі ўзровень гэтага паказчыка тлумачыцца тым, што паняцце “зарэгістраваны абанент” уключае ў сябе не толькі звычайных спажывальнікаў – наймальнікаў ці гаспадароў уласнага жылля, -- але і тых, хто зарэгістраваў свой прыбор уліку на дачы ці ў гаражы. Там найчасцей расход энергіі невысокі.**

Тарыф, па якім Субачы плацілі і будуць плаціць далей са звычайным лічыльнікам, – 382,4 рубля за кілават у гадзіну.

А для двухтарыфных лічыльнікаў у Іваноўскіх тарыфы ўжо іншыя: у будні з 22.00 да 17.00 – 267,7 рубля, і ад 17.00 да 22.00 – 764,8 рубля. Па выхадных і святочных днях дзейнічае мінімальны тарыф – 267,7 рубля за кВт/гадзіну. У месяцы звычайна 22 працоўныя дні і 8 выхадных.

Цяпер разлічым, колькі будзе плаціць сям’я Субачаў са звычайным лічыльнікам і Іваноўскіх – з шматтарыфным.

### Іваноўскія – двухтарыфны лічыльнік

Іваноўскія разлічваюцца за спажытую электраэнергію па дыферэнцыяваным тарыфе. Удзень яны знаходзяцца на працы. У сярэднім трацяць 180 кілават за месяц.

За суткі – 6. Няхай, 2 кілаваты днём, па ніжэйшым тарыфе, і 4 увечары, па большым.

2х267,7х22=11 780 (рабочыя дні, мін.)

6х267,7х8=12 850 (выхадныя дні)

4х764,8х22=67 300 (рабочыя дні, макс.)

“Танных” кілават Іваноўскія спажываюць на 24 630 рублёў, а “дарагіх” – на 67 300.

Усяго – 91 930 рублёў за месяц.

### Субачы – аднатарыфны лічыльнік

Паглядзім, колькі заплацяць Субачы, якія карыстаюцца звычайным аднатарыфным лічыльнікам і спажылі энергіі столькі ж, колькі і Іваноўскія.

Паводле новых правілаў, з 1 лютага Субачы аплачваюць 150 кілават па тарыфе 382,4 рубля за кілават у гадзіну. Усё, што звыш 150, разлічваецца з папраўчным каэфіцыентам 1,3, або па 497,1 рубля за кілават у гадзіну.

150х382,4=57 360

30х497,1=14 910

Атрымліваецца – 72 270 рублёў.

Для сям’і Субачаў, якія спажываюць, як і Іваноўскія, і ў такім самым рэжыме, па 180 кВт, звычайны лічыльнік аказаўся больш выгадным.

Аднак трэба зразумець, што калі колькасць спажытай энергіі Іваноўскімі і Субачамі будзе іншай і суадносіны спажывання ў розныя часы сутак зменяцца, то выгаднымі могуць быць і двухтарыфныя лічыльнікі.

Калі б нашы героі спажывалі, напрыклад, 500 кілават у гадзіну за месяц і асноўныя траты Іваноўскіх (75%) прыпалі на “танны” перыяд, то Субачам бы налічылі 300 тысяч 265 рублёў, а ашчадным Іваноўскім – 195 тысяч 988 рублёў.

Чаму так атрымалася? Пры спажыванні энергіі больш чым 300 кілават у гадзіну на працягу месяца, разлікі ўжо вядуцца па тарыфе 841,7 рубля. А як Іваноўскія ўмудрыліся трацiць асноўную масу энергіі ў час “таннага” тарыфу? Мабыць, усталявалі такія штучкі, як электронны праграматар, які падключае іхнюю маразілку і іншыя энергаёмістыя прыборы толькі ў час, калі энергія не так б’е па кішэні.

Больш аб выгаднасці і нявыгаднасці двух спосабаў тарыфікацыі глядзіце ў нашай табліцы.

### Час электронных лічыльнікаў

Цяпер, калі будуюцца новыя дамы ці робіцца капітальныя рамонты, пераважна ўстанаўліваюцца электронныя лічыльнікі, якія могуць працаваць як у аднатарыфным, так і шматтарыфным рэжымах.

Калі вы хочаце перайсці на дыферэнцыяваны тарыф, то вам неабходна звярнуцца ў Энергазбыт. Там вы напішаце заяву па змене тарыфу, і праз некаторы час вам запраграмуюць новы тарыф. Гэта працэдура бясплатная.

### Дзе набыць электронны лічыльнік

Калі, паводле падлікаў, электронны лічыльнік вам усё ж падыдзе больш, то набыць яго можна самастойна – кошт каля 500 тысяч рублёў.

Яго апраўдана набываць толькі ў тым выпадку, калі асноўнае спажыванне энергіі ў вас прыпадае не на вечар будняў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

### Залежнасць аплаты электраэнергіі ад выбранага лічыльніка

| кВт/гадз. | Аплата за месяц, рублёў | | |
|---|---|---|---|
| | Аднатарыфны лічыльнік | Шматтарыфны лічыльнік, варыянт "А" | Шматтарыфны лічыльнік, варыянт "Б" |
| 20 | 7 648 | 7 840 | 10 325 |
| 40 | 15 296 | 15 679 | 20 650 |
| 60 | 22 944 | 23 519 | 30 975 |
| 90 | 34 416 | 35 278 | 46 463 |
| 110 | 42 064 | 43 117 | 56 788 |
| 130 | 49 712 | 50 957 | 67 113 |
| 150 | 57 360 | 58 796 | 77 438 |
| 180 | 72 273 | 70 556 | 92 925 |
| 210 | 87 186 | 82 315 | 108 413 |
| 240 | 102 099 | 94 074 | 123 900 |
| 270 | 117 012 | 105 833 | 139 388 |
| 300 | 131 925 | 117 593 | 154 875 |
| 340 | 165 593 | 133 272 | 175 525 |
| 380 | 199 261 | 148 951 | 196 175 |
| 420 | 232 929 | 164 630 | 216 825 |
| 460 | 266 597 | 180 309 | 237 475 |
| 500 | 300 265 | 195 988 | 258 125 |
| 540 | 333 933 | 211 667 | 278 775 |
| 600 | 384 435 | 235 185 | 309 750 |

**Варыянт “А”** – 25% энэргіі спажыта па вышэйшым тарыфе, 75% – па ніжэйшым.

**Варыянт “Б”** – спажыта энергіі па абодвух дыферэнцыяваных тарыфах пароўну (па 50%).

## Энерганагляд адказвае на пытанні

**Ці ўплываюць плошча кватэры і колькасць жыхароў на велічыню тарыфу?**

Дыферэнцыяваная аплата электраэнергіі і газазабеспячэння будзе залежаць ад аб’ёмаў іх спажывання. Ні колькасць зарэгістраваных грамадзян у жылых дамах ці кватэрах, ні плошча, ні колькасць пакояў ролі не адыгрываюць.

**Колькі трэба плаціць пры адсутнасці электралічыльніка?**

Калі жылыя дамы або кватэры не абсталяваныя прыборамі індывідуальнага ўліку расходу электрычнай энергіі, то з 1 ліпеня плата за паслугі электразабеспячэння будзе спаганяцца па тарыфах, што забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне. З гэтага месяца яны складаюць 841,7 рубля за кВт/гадзіну.

**Колькі плаціць у загарадных дамах і пустых кватэрах?**

У загарадных дамах, а таксама кватэрах, у якіх ніхто не зарэгістраваны, аплату неабходна рабіць па паказаннях разліковага прыбора ўліку электраэнергіі па тарыфах у залежнасці ад усталяванай пліты -- газавай ці электра.



ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці пачалі вы эканоміць электраэнергію?



**Галіна Адамовіч, намеснік дырэктара цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча:**

– Вядома, чулі, што тарыфы падняліся, але не эканомім, бо кішаня яшчэ не адчула ўзлёту цэн. Калі моцна заціснe, дык, пэўна ж, пачнём.



**Арцём Казакевіч, навучэнец:**

– Не, не эканомлю. Што, мне можа халадзільнік нанач адключаць? Хіба што лямпачкі энергазберагальныя набылі. Але мы і да павышэння тарыфаў імі карысталіся.



**Аксана Гунько, гандлярка:**

– Не, я люблю святло. Па ўсёй кватэры мне трэба, каб лямпачкі гарэлі. Але набываю толькі энергазберагальныя, гэта сапраўды дапамагае захаваць грошы ў кашальку. Цяпер плацім значна менш.



**Галіна Карніевіч, пенсіянерка:**

– А што, падаражэла электрычнасць? Было б на чым эканоміць! Тэлевізар усе глядзяць. А гэтыя лямпачкі энергазберагальныя, што некаторыя купляюць… А ну іх! Не думаю, што ад іх ёсць карысць.



**Анастасія Спець, навучэнка:**

– Пачалі. Па магчымасці менш карыстаемся тэлевізарам і камп’ютарам. Святло рэгулюем, па ўсёй кватэры цяпер не ўключаем.



**Алег Давідовіч, настаўнік фізікі:**

– Істотна нічога не змянілася. Мы заўсёды імкнуліся рацыянальна выкарыстоўваць электраэнергію. А ў тамбуры стаіць аўтаматычны выключальнік, які не дазваляе святлу гарэць, калі нікога няма ў памяшканні.



**Юры Шчука, псіхолаг:**

– А калі гэта я не эканоміў? Хутка перастану пральнай машынай карыстацца і прасаваць, калі абмежаванні не супыняцца. А ў мяне і дзеці маленькія, і ад каміна не адмовішся. Ён таксама спажывае энергію.

**Падрыхтавала Ганна ФІЛІСТОВІЧ.**



 

ВЫСТАВЫ

# Скульптуры з паперы стварае эканаміст

**ВІЛЕЙКА. Да 22 лютага віляйчане могуць пазнаёміцца са старадаўнім мастацтвам вырабаў фігурак з паперы: у выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча праходзіць выстава "Арыгамі OMNIBUS – арыгамі для ўсіх".**

Яе арганізатарамі выступілі краязнаўчы музей і цэнтр эстэтычнага выхавання.

На выставе прадстаўленыя працы трох майстроў. **Іна Занкевіч** займаецца арыгамі з 1992 года, яна – заснавальнік студыі арыгамі "Чароўны квадрат" цэнтра эстэтычнага выхавання. Яе работы неаднаразова былі прадстаўленыя на выставах рэспубліканскага і міжнароднага ўзроўняў.

Самаму маладому ўдзельніку выставы **Івану Барбуку** 26 год. Ён якраз пачаў займацца арыгамі ў Вілейцы ў студыі "Чароўны квадрат", цяпер жыве ў Мінску. Любімая тэма Івана – фігуры жывёл і птушак, фэнтэзі, ары-мініяцюра.

Таксама выстаўленыя работы мінчаніна **Дзмітрыя Лысюка**. Ён пачаў займацца арыгамі адносна нядаўна – тры гады таму. Яго прыцягвае высокатэхналагічная папяровая скульптура, у аснове якой ляжыць тэхніка арыгамі.

На выставе прадстаўленыя класічныя і модульныя арыгамі (у іх цэлая фігура збіраецца з многіх аднолькавых частак). Таксама можна пабачыць вырабы ў тэхніцы "мокрае складванне" – калі выкарыстоўваюць змочаную вадой паперу для надання фігурцы плаўнасці ліній, выразнасці, а таксама цвёрдасці.

**– Якія вырабы выклікаюць найбольшую цікавасць у наведнікаў**? – спытаў у навуковага супрацоўніка музея **Надзеі Аўдзей**.

– Калі гаварыць пра дзяцей, то ў дзяўчынак – гэта кветкі, у хлопчыкаў – жывёлы. Жанчынам таксама кветкі падабаюцца. Многія адзначаюць работы "Змяя", "Смерць".

**– Якая найбольш складаная работа?**

– Іван Барбук казаў, што гэты гном. Тут ярка выражаныя вочы, рукі, ногі. Даволі складаная работа "Змяя". Яна зробленая з вузкай палоскі паперы даўжынёй каля пяці метраў. Мне яна больш за ўсё спадабалася.

Увогуле, арыгамі – мастацтва працаёмкае: на выраб адной фігуры можа пайсці ад чатырох гадзін да некалькіх месяцаў.

Пашчасціла тым віляйчанам, якія патрапілі на адкрыццё выставы. Адна справа – паглядзець на арыгамі, а зусім іншая – даведацца пра ўсе тонкасці ад аўтара работ. Скажам, Іван Барбук расказваў, што арыгамі – занятак не толькі для скульптара ці архітэктара, ім можа займацца любы чалавек. Прафесія не мае значэння, галоўнае – натхненне. Ён, напрыклад, мае вышэйшую эканамічную адукацыю.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Работы Івана Барбука.

Прыходзяць на выставу пераважна дзеці, якія хочуць займацца ці ўжо займаюцца арыгамі. І недарэмна яны бяруцца асвойваць старадаўняе мастацтва. Майстры казалі, што калі дзеці займаюцца арыгамі, яны пачынаюць лепш маляваць, могуць уявіць фігуру ў аб'ёме.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бетонамяшалка, воданагравальнік, паветранагравальнік, помпа 14м3/ч, камень. Т. (8-029) 2599940.*

• Магнета кантактнае да трактароў МТЗ. Т. (8-029) 8303680.

• Мотаблок FM902PRO (9 л.с.)+культыватар, плуг, акучнік, капалка, зачэпы і адаптар, 16 млн.рублёў. Т. (8-029) 2510119.*

• Плуг аднакорпусны, апаратура Т-25, апарат для рэгулявання фарсунак. Т. (8-033) 3209476.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР»- СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal. deal.by***

• Тэлевізар плазменны, новы PS51E450A1W, дыяганаль 51 (129 см.), краіна вытворчасці Венгрыя. Т. (8-029) 6946076.

**МУЗІНСТРУМЕНТЫ**

• Піяніна. Т. МТС (8-029) 8771998.*

• Бас-гітара з Германіі, чахол, 1 год б/у, 200 у.а. Т. (8-044) 7740731.

**МЭБЛЯ**

• Прыхожая ЗАО "Маладзечнамэбля", ламінаваная, светлая, б/у, кухня белая, б/у. Т. (8-029) 1608842.*

• Канапа, добры стан, б/у, цана дагаворная, Маладзечна. Т. (8033) 6374255, (8029) 2476674.

• Канапа, нядорага, Маладзечна. Т. (80176) 768779

• Спальня з масіву дрэва, канапа, шафа, 2 тумбачкі, тумба пад тэлевізар, Вілейка. Т. (8-029) 2580266.

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

• Кабан. Т. (8-029) 8546104, (8-0176) 763090.*

• Карова, Вілейскі р-н. Т. (8-01771) 45225.

• Куры-нясушкі яечных парод. Т. Вэлком (8-029) 6372825.*

• Парасяты в'етнамскай віслабрухай пароды, Вілейка. Т. (8-033) 6634420.

• Шчанюкі ўсходне-еўрапейскай аўчаркі, акрас чапрачны, узрост 2 месяцы, зробленыя прышчэпкі. Т. (8-029) 5545688.

**ІНШАЕ**

• Вокны, шклопакеты, дрэва фірмы "Забудова", нестандартныя, 185-113, 4 шт., 185-143, 1 шт. Т. (8-029) 8743873, (8-0176) 757346.*

• Дыван 2х3, авальны, новы, тэлевізар Гарызонт б/у. Т. Вэлком (8-029) 3520117, 764236.*

• Кажух чорны 48-50 памеру, нядорага. Т. (8-01771) 31165.

• Лыжы "Целяханы" п/пластык. Памер 170, 180, 190, 200 см. Кошт 250 тыс.руб. Т. (8-029) 6320317, (8-029) 2649460.*

• Перавязь на кольцах (слінг), заплечнік кенгуру, спавівальны столік, усё б / у. Арэлі скакункі новыя, Маладзечна. Т. (**8033) 6043999.**

• Рэшткі колатых дроў (алешына, бяроза, асіна), танна. Т. МТС (8-033) 6318944.

• Сані-вазок драўляныя, 120 у.а. Т. (8-029) 8729122.

• Электрагрэлка Чараўніца, б/у, 400 тыс.руб., секцыя б/у, 2,30х1,85, 280 тыс.руб. Т. (8-029) 2558705.

## КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 6319537.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку**

• Асенізатар ГАЗ 53. Т. (8-044) 7372481.

• Сенаварушылку ГВЦ-3. Т. (8-029) 2725536.

• Трактар Т-25, Т-16 з дакументамі. Т. (8-029) 7071054, (8-029) 2500955.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• DDR 1, 1 GB, Samsung або Hynix. Т. (8-029) 6550799, slabada@tut.by.*

**Музінструменты**

• Домру трохструнную для заняткаў у музычнай школе. Т. МТС (8-029) 7737358.*

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**ЖЫВЁЛУ**

• Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.**

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Балон кіслародны вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*

• Бярозавыя, дубовыя венікі ў лазню. Т. (8-029) 7613847.

• Лодку дзюралевую ў любым стане, снасці. Т. (8-0176) 706577.*

• Скуркі куніцы, чарнабуркі, пясца. Т. (8-029) 8552646.*

## ЗНОЙДЗЕНА

• 3 лютага знойдзены кашалёк з грашыма, магчыма на Майкота І.І., Маладзечна. Т. (8029) 3232957.

• ДУА "Гарадзілаўская сярэдняя школа" патрабуецца вадзіцель катэгорыі Д для перавозкі дзяцей. УНП 601058167. Т. (8-0176) 725372, (8-029) 1295099.*

• Аддзелачнік шукае работу (шпалеры, тынкоўка, шпаклёўка, адкосы, падлога, уцяпленне, гіпсакардон і інш.) Т. (8-029) 2775694.

• Шукаю работу аддзелачніка, выконваю работы: шпаклёўка, афарбоўка, гіпсакардон, ламінат. Сяргей. Т. Вэлком (8-029) 3747358, МТС (8-029) 5316325.*

## ПРАЦА

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Тэрмаапрацоўшчыца. ПУП "АссольМода". Т. МТС (8-029) 7070569, 7547189, 7612222.*

• Арганізацыі патрабуецца бухгалтар, эканаміст (справавод). ТАА "МехБудТэхніка". УНП 191698107. Т. Вэлком (8-029) 6500767, МТС (8-029) 2788369.

• Арганізацыі ў п.Чысць патрабуецца кіроўца катэгорыі С, Е на гідраманіпулятар. ТАА "МехБудТэхніка". УНП 191698107. Т. Вэлком (8-029) 6500767, МТС (8-029) 2788369.

• Прадавец рыбы на рынак райспажыўтаварыства ў Маладзечне (магчыма пенсійнага ўзросту). ЧТУП Каток". УНП 690624476. Т. (8-029) 6432425.

• Сялянскай гаспадарцы "Вулей" (Вілейскі р-н) патрабуецца механізатар з вопытам работы ў сельгасвытворчасці, аплата высокая. Без прадастаўлення жылля. Пасведчанне аб дзярж.рэг. №503 ад 2002/07/23 г. УНП 600008888. Т. (8-029) 9864742.

• У кафэ "Эліта" ў новы зал патрабуецца афіцыянт, бармен. УНП 690250951. Т. (8-029) 5065250, (8-01771) 52000.

• У магазін "Прадукты" патрабуецца прадавец (зарплата ад 3,8 млн.руб.), прыбіральшчыца (зарплата ад 2,8 млн.руб). Сядзіба "Астапаўскай-Субач". УНП 690612563. Т. 752503, Вэлком (8-029) 6662449.*

Рэгіянальная газета (0176) **753841**

УП **«Молодечноэлектромонтаж»** требуются **ЭЛЕКТРОМОНТАЖНИКИ**
Оплата высокая (от 6,0 млн.руб.).
Т. **(8-0176) 74-77-52, (8-029) 682-13-36.**
УНП 600395031

**ОДО "СтэйС"** УНП 600233668
• **Автоматизация торговли - кассовые аппараты и специализированные компьютерные системы**
• **продажа • ремонт • обслуживание • продажа весового оборудования • расходные материалы:** чековая лента, этикетка
**обслуживание, ремонт компьютерной и офисной техники заправка картриджей**
Тел. **75-54-69**, т/факс **76-89-67**
**(8-029) 195-42-08**
*г.Молодечно, ул.В.Гостинец, 68 Б*



**• ТРУБЫ • уголки • швеллера • арматуру • листы • сетка рабица**
МЕТАЛЛ КОНТРАКТ
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ. РЕЗКА. Доставка
***г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а***
**(0176) 75-19-82, 75-44-36 (факс)**
**(029) 196-90-23, 704-47-56**
e-mail: metalkontrakt@tut.by
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

Все виды **КРОВЛИ**
**МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА (РБ, РФ, Польша)**
**Профнастил, метробонд, гибкая черепица**
Элитные **ОКНА ПВХ**
**МАНСАРДНЫЕ ОКНА**
**ГАРАЖНЫЕ ворота и роллеты**
**www.vira-tr.by**
**ООО "ВТ-Сити"**
**(029) 282-55-66**
**(029) 65-777-15**
УНП 191301059

ЧПСУП «СморгоньДомСтрой» реализует
**межвенцовый утеплитель (ДЖУТ)**
Т. **(8-029) 137-71-69**
УНП 590714802

**ДВЕРИ**
✔**металлические**
✔**межкомнатные**
• Любых размеров
• Доставка, установка
• Ремонт, рассрочка
**(0176) 74-37-30**,
**777-22-74** МТС,
**916-83-16** Велком
ООО «АВД-Групп».
УНП 690631930



**НАРЕЗКА СТЕКЛА оконное узорчатое**
БОЛЬШОЙ ВЫБОР
МЕЛКИЙ ОПТ
Т. МТС **(8-029) 557-89-17**
Велком **(8-029) 610-34-37**
ООО «Древпромторг»УНП 691288784

СПЕЦИАЛИЗИРОВАННАЯ ПРОДАЖА И РЕМОНТ
**ШВЕЙНЫЕ МАШИНЫ, ОВЕРЛОКИ,**
**ПАРОГЕНЕРАТОРЫ, КОМПЛЕКТУЮЩИЕ, ЗАПЧАСТИ, ИГЛЫ, НИТКИ, НОЖНИЦЫ**



ИП Битель И.И.
УНП 600320450
**МОЛОДЕЧНО, Ф.СКОРИНЫ, 10А**
**(8-0176) 757182, 764737, (8-029) 3787377**

МЕТАЛЛОПРОФИЛЬНАЯ ПРОИЗВОДСТВЕННАЯ КОМПАНИЯ
**ВЕРТРАГИЯ**
VERTRAGIA
**МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА** типа "Монтеррей"
**ВОДОСТОЧНЫЕ СИСТЕМЫ**
**ПРОФНАСТИЛ**
**ФАЛЬЦЕВАЯ КРОВЛЯ**
**СТРОПИЛЬНЫЕ СИСТЕМЫ**
www.vertragia.by
РАСЧЕТ КРОВЛИ ПОД РАЗМЕР, ПОЛНАЯ КОМПЛЕКТАЦИЯ, БЕСПЛАТНАЯ КОНСУЛЬТАЦИЯ, ДОСТАВКА
Молодечно: (0176) 73-55-13, 73-79-42
Минск: (017) 298-38-04, 298-01-08
(029) 676-44-25
ЗАО "Вертрагия" УНП 101158209

**Организация реализует доску** **2,3 сорта (сосна).**
**Выполнит любые заказы** **по распиловке древесины.**
Т. **(8-029) 128-80-04, (8-029) 860-16-29** ЧПУП «Ламирус»УНП 690691837

**12.02.2013 года с 10.00 до 12.00**
начальник Молодечненского филиала РУП **«Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру»**
**БОРИСЕНКО Владимир Васильевич**
проводит **«ПРЯМУЮ ЛИНИЮ»** по вопросам относящимся к деятельности Молодечненского филиала. Т. **75-73-51** УНП 600199462

**«Молодечненский торгово-экономический колледж» Белкоопсоюза 16 февраля 2013 года проводит**
**ДЕНЬ ОТКРЫТЫХ ДВЕРЕЙ**
**Начало в 12 часов. Т. 77-01-51, 77-19-72.** УНП 600095711

ТРЕБУЕТСЯ
**инженер–технолог**
**деревообрабатывающих производств с опытом работы**
(приветствуется наличие трудовой практики в лесопильных цехах)
Зарплата договорная. Прием на работу на конкурсной основе.
ОАО «Стройдетали», Вилейка. Тел. **(8-029) 337-09-92**
ogt@vi-lario.com УНП 600246748

Производственному предприятию требуются на постоянную работу в г. Заславль (р-н ЖД вокзала)
• **СЛЕСАРЬ механосборочных работ** – з/п от 4500000 руб.
• **МАЛЯР полимерной покраски** – з/п от 5000000 руб.
• **УПАКОВЩИК мебели** – з/п от 3500000 руб.
*Можно без опыта работы, соц. пакет*
Тел. **(8-044) 761-69-88**
ООО «ИВК инвест». УНП 191043093

пицца темпо
Пиццерия «ПИЦЦА ТЕМПО» Приглашает на постоянную работу:
**ОФИЦИАНТОВ** от 2 300 000 руб.
**ПОВАРОВ** 3 800 000 руб. + премия
**ПЕКАРЕЙ** 3 800 000 руб. + премия
(017)250-43-73, (029)390-32-91, (029)676-82-17, (029)723-21-31, e-mail: kadry@pizzatempo.by
Предлагаем достойные условия труда, льготное питание

ООО **«Практика-Центр»**(официальный представитель ОАО «Красносельскстройматериалы» и ПТОО «Тайфун») в связи с расширением требуются в г. Вилейка и г. Молодечно
**Специалисты по продажам**
**Требования:** активность, ответственность, умение общаться, водительское удостоверение
**Заработная плата:** оклад + %
**Собеседование** состоится после рассмотрения письменных резюме
**Срок подачи резюме** – до 20 февраля 2013 г.



На e-mail: info@cementbel.by
На т/ф: **(8-01716) 5-22-26**
**(8-029) 650-69-34**
Сайт: **cementbel.by**
*Стабильная работа для тех, кто ценит надежность и добрые отношения в коллективе.* УНП 690557327

**ООО «Белэлитдверь» в деревообрабатывающий цех (производство дверных полотен), г. Сморгонь, ТРЕБУЕТСЯ**
**ТЕХНОЛОГ**
**на постоянную работу или по совместительству, заработная плата по собеседованию.**
**Обращаться по тел. (8-044) 538-42-77** УНП 590946763

**КУП «Минсксанавтотранс»** *г.Минск, ул.П.Бровки, 25 Кижеватова, 58а* (филиал) на постоянную работу ТРЕБУЮТСЯ
**ВОДИТЕЛИ**
**категорий «В» и «В,С» для работы на автомобилях скорой и медицинской помощи**
Полный соц.пакет, оплата проезда и частичная оплата съёмного жилья для иногородних, обучение на кат.В и С за счёт предприятия по договору.
Т. **(8-017) 284-09-63**- отдел кадров;
**(8-017) 284-00-48**- отдел перевозок. УНП 100029143

алми СЕТЬ МАГАЗИНОВ
**Магазины «Алми»** приглашают на работу персонал по следующим специальностям:
- **Управляющий магазином**
- **Экономист по ценообразованию**
- **Оператор ЭВМ**
- **Специалист по приёмке товаров**
- **Продавец**
- **Контролёр-кассир**



**!** Приглашаем на БЕСПЛАТНОЕ ОБУЧЕНИЕ продавцов, кассиров, формовщиков теста с дальнейшим трудоустройством.

Во всех магазинах «Алми» сотрудникам компании предоставляется ДИСКОНТНАЯ КАРТА с 10%-ной скидкой.

Тел. **(8-033) 320-09-41, (8-029) 101-76-94**
ООО «Торгпин». УНП 190679197

В УЦ **«Лидия»** Минского института управления, расположенного по адресу: Молодечненский р-н, 1,5 км. от д.Петровщина Городокского с/с, требуется
**администратор гостиницы**
**Требования:** Высшее образование по специальности гостиничный и туристический бизнес или бизнес администрирование. Опыт работы по специальности. Свободное владение английским языком. Владение ПК. Коммуникабельность. Без вредных привычек.
Ваше резюме высылайте на электронный адрес miu@miu.by или звоните по телефону **(8-017) 242-97-97.** УНП 100687805

**ТРЕБУЮТСЯ на конкурсной основе:**
**ИНЖЕНЕР-МЕХАНИК** с опытом работы в лесопилении;
**ИНЖЕНЕР ПО АВТОТРАНСПОРТУ**.
**Зарплата договорная. Т. (8-01771) 3-25-06.**
ОАО «Стройдетали» (ТМ ViLARIO), г.Вілейка. УНП 600246748

ИП Малючков О.В. УНП 690460607
ЭЛЕКТРОМАГ **Все для ЭЛЕКТРО...снабжения, учета, монтажа**
Кабель, автоматы, УЗО, счетчики. Корпуса металлические. Стабилизаторы напр. Полная комплектация под проекты энергоснабжения, Декоративная подсветка.
Нал./безнал. расчет. ***Молодечно, ул. Виленская, 42***
**(8-029) 626-94-28** Велком, **(8-033) 637-85-77** МТС, **(8-0176) 77-84-21**

**«БЕНЗО-ЭЛЕКТРО-ТЕХНИКА»**
Все от первых представительств заводов Husqvarna, Stihl, Honda, Bosch, Makita
**БЕНЗИНОВЫЕ И ЭЛЕКТРИЧЕСКИЕ:**
- бензо- и электропилы
- траво- и газонокосилки
- мотоблоки-культиваторы
- дрели, перфораторы, шуруповерты
- шлифовальные и отрезные машинки
- цепи, шины, свечи, масла, леска для кос
- и др. з/ч

МПН ООО «Спецавтоматика». УНП 600000185
***Наличный и безналичный расчет. Кредит.***
**ВИЛЕЙКА, ул Советская, 24. Тел. (8-029) 553-59-77**
**МОЛОДЕЧНО, ул. Черняховского, 42. Ул. Мира, 3, вещевой рынок, №8**
**Тел. (8-0176) 73-61-43, (8-029) 655-55-98** (с 9.00 до 18.00.)

# Мае прыгоды ў Чэхіі



Фота Ганны ШАКЕЛЬ.

Мы неаднойчы сустракалі вулічных музыкаў. Было вельмі цікава паглядзець, таму што каля некаторых нават танцавалі прахожыя. Гэта дадае часцінку радасці ў паўсядзённае жыццё.

**Усе кажуць, што падарожжа ў Чэхію – гэта падарожжа ў казку. Мне стала цікава, ці сапраўды так, і я вырашыла правесці свае канікулы ў Чэхіі.**

Паездку арганізоўвала адна з маладзечанскіх турфірмаў. Ехаў наш і яшчэ два класы з нашай школы.

Мы ўзялі кірунак на Брэст. Ад Маладзечна да Брэста – гадзін сем на аўтобусе.

Мяжу праехалі даволі хутка. Там амаль не было аўтобусаў. Напэўна, з-за позняга часу (мы туды даехалі прыкладна ў 23 гадзіны) і з-за таго, што ўсе пераважна едуць праз Гродна.

## Пра здранцвелыя ногі

Дарогай сядзець у аўтобусе было нязручна. Крэслы былі так блізка адно ад аднаго, што калені падпіралі спінку наступнага. Ногі ўвесь час хацелася кудысьці падзець, яны проста здранцвелі. Таму мы не выпускалі аніводнай магчымасці выйсці з аўтобуса.

У Прагу мы прыехалі каля 12 гадзін па мясцовым часе. Калі палічыць, то дарога заняла цэлыя суткі. Нас высадзілі на чыгуначным вакзале, які знаходзіцца недалёка ад Вацлаўскай плошчы, і мы хутка дайшлі да цэнтра горада.

## Абед па-чэшску

Да экскурсіі заставалася паўгадзіны, і мы вырашылі паабедаць. Гід завяла нас у кавярню "Чэшская кухня". Яна нечым нагадвае бістро. Меню там было разнастайнае, але мне захацелася пакаштаваць нацыянальныя стравы Чэхіі – кнедлікі (бульбяныя ці мучныя) і смажаны сыр.

Бульбяныя кнедлікі мне не спадабаліся. Гэта два нейкія маленькія блінчыкі, зробленыя з бульбы і мукі. Ядуць іх з мясам і падлівай, якой кожны выращае сам. Але солі там не шкадуюць. А вось смажаны сыр быў вельмі смачны. Ён быў цягучы ўнутры і пакрыты скарыначкай зверху. З ім падаюць бульбяное пюрэ з падлівай на выбар – таматнай ці грыбной.

Хочацца сказаць, што непаразуменняў з мовай не ўзнікала.

## Шукаю казку, знаходжу дзіва

Неўзабаве мы дайшлі да Старамесцкай плошчы. Тут турыстаў было, напэўна, найбольш. Бачылі нават маладых у працэсе фатаграфавання. Магчыма, гэта і была казка, пра якую ўсе кажуць. Куды ні глянь – сярэднявечча. Сярэдневяковыя дамы, карэты з коньмі, жабракі, якія просяць міласціну. Толькі людзі, якія фатаграфавалі ўсё на айпады і апранутыя па-сучаснаму, здаецца, вярталі ў рэальнасць.

На Старамесцкай плошчы знаходзіцца знакаміты астранамічны гадзіннік (яго яшчэ называюць "Арлой"). Кожны раз, калі малая стрэлка гадзінніка набліжаецца да дванаццаці, пачынаецца сапраўднае прадстаўленне.

Нам пашчасціла пабачыць яго ўласнымі вачыма. Калі мы падышлі да вядомага гадзінніка, экскурсавод пачала распавядаць пра яго: "Першыя дэталі Арлоя былі зробленыя аж у пачатку 15-га стагоддзя. Можаце сабе ўявіць? А самыя маладыя тут фігуркі апосталаў. Яны былі адноўленыя ў сярэдзіне 20-га стагоддзя. Справа і злева ад гадзінніка знаходзяцца чатыры фігуркі, якія кожную гадзіну пачынаюць рухацца. Гэта шкілет, Турак, Пыхлівы і Скваппы.

Над гадзіннікам восьвось адчыняцца дзверцы і адтуль па чарзе будуць глядзець на вас дванаццаць апосталаў. А ў гэты час наверсе вежы з акенца высунецца трубач у чырвоным адзенні і музыкай будзе суправаджаць звон гадзінніка. Калі ён скончыць іграць, памахае вам рукой. Вы таксама яму памахаеце".

У гэты ж дзень нам давялося наведаць і Карлаў мост. Запомнілася мне толькі скульптура Яна Непамуцкага, чэшскага святога, які, згодна з паданнем, адмовіўся расказаць каралю Вацлаву IV тайну споведзі каралевы, за што кароль загадаў скінуць святога з моста. На месцы, дзе гэта адбылося, усе загадваюць жаданне (я таксама загадала). Каб яно здзейснілася, нельга расказваць пра яго нікому на працягу года.

Што я заўважыла падчас шпацыру па Празе, дык гэта тое, што кожны дом ў Старым горадзе мае ўласную назву. Напрыклад, "У Чорнай Змяі" ці "У Залатой Саломы".

Больш за ўсё ўражанняў я атрымала, канешне, ад катэдры святога Віта (яе будаўніцтва пачалося ў сярэдзіне 14-га, а цалкам скончылася толькі ў пачатку 20-га стагоддзя).

Такое я бачыла ў сваім жыцці ўпершыню. Сабор незвычайна вялікі. Архітэктура яго даволі дзіўная. А знутры адразу кідаюцца ў вочы шматлікія вітражы. Яны з'яўляюцца сапраўднымі творамі мастацтва. Катэдру святога Віта можна праўдзіва ахарактарызаваць толькі адным словам – дзіва.

## Замак Локет і Карлавы Вары

На наступны дзень нас чакалі замак Локет і Карлавы Вары. Замак 13-е стагоддзе) стаіць над ракой, якая мае выгіб у форме локця. Адсюль і назва. У замку нас сустрэў экскурсавод.

Яму даволі нялёгка было размаўляць з намі на нашай мове, таму ён спрабаваў адцягнуць ад гэтага ўвагу за кошт акцёрскай ігры. Магчыма, калі б усе экскурсаводы так віртуозна распавядалі гісторыі, культурнымі і гістарычнымі каштоўнасцямі зацікавілася б больш людзей.

А Карлавы Вары вядомыя сваімі гаючымі крыніцамі мінеральнай вады. На сёння іх у горадзе 12. Тэмпература вады вельмі розная – ад 30 да 72 градусаў па Цэльсію. Я гэтай вады ўзяла ў рот толькі адзін глыточак – яна салёная на смак.

З пластыкавым кубачкам у руцэ да мяне падыходзілі сябры і пыталіся: "А ты чаму не п'еш?" На што адказвала з гумарам: "Я ж не 70-гадовая бабулька, каб лячыцца мінеральнай вадой ад усіх хвароб!"

Мяне ў цэлым Карлавы Вары не зацікавілі. Магчыма, на гэта паўплывала і надвор'е – падчас экскурсіі ліло, як з вядра.

У Карлавых Варах усе турысты набываюць традыцыйныя чэшскія сувеніры – лазенскія аплаткі (гэта такія круглыя вафелькі з розным начыннем), лікёр "Бехераўка" і сярэбраныя вырабы з чэшскім гранатам. Шапікі з такімі сувенірамі можна заўважыць праз кожны крок.

Проста немагчыма не купіць падарункі сваім блізкім! Але аплаткі пакаштавала і сама. Яны смачныя, але я больш звыклася з нашымі. Можа, разам з карлаварскай мінеральнай вадой яны былі б смачнейшыя.

## Колькі каштуе паездка?

Страхоўка – 50 тысяч рублёў. Яна забяспечвае бясплатную медыцынскую дапамогу.

Праезд на аўтобусе – 100 тысяч рублёў.

Кошт экскурсій і знаходжання ў гатэлі – 120 еўра. За экскурсію ў замак Локет усё ж такі давялося заплаціць асобна, прыблізна 100 чэшскіх крон (каля 45 тысяч рублёў).

Віза ў ЕС звычайна каштуе 60 еўра.

Падчас знаходжання ў Чэхіі (тры дні) мы харчаваліся самі тры разы. Адзін абед з другой стравай і напоем мне абышоўся прыкладна 80 чэшскіх крон (каля 35 тысяч рублёў).

На экскурсіях па Празе нам давалі навушнікі, каб мы добра чулі свайго гіда, бо турыстаў шмат. За карыстанне навушнікамі мы заплацілі 20 чэшскіх крон (прыкладна 9 тысяч рублёў).

І як жа без сувеніраў! Адзін пачак лазенскіх аплатак каштуе каля 30 чэшскіх крон (амаль 15 тысяч рублёў). "Бехераўку" піць мне яшчэ рана, таму яе коштам я не цікавілася.

**Ганна ШАКЕЛЬ, школа маладога журналіста.**

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача

**ВАЛОЖЫН. Успаміны пра сваю доўгую пакручастую дарогу жыцця напісаў мой аднакласнік Мікалай Аляксандравіч Махнач, ураджэнец горада Валожын.**

Гэта было пры Польшчы. Хадзілі мы ў шосты клас сямігадовай польскай школы (1937-38 навучальны год).

З прыходам саветаў, у 1939-м, 16-гадовым юнаком давялося яму пакінуць родную хату.

Лёсам наканавана было болей у яе не вярнуцца. Цяпер спадар Мікола жыве ў горадзе Вэбстэр, што ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Пакуль выйшла толькі некалькі сігнальных асобнікаў успамінаў "Доўгі шлях да свабоды", якія ўбачылі свет па маёй ініцыятыве і намаганнямі гісторыка і археолага спадара **Міхася Міхасевіча Чарняўскага** (на вялікі жаль, ужо пакінуўшага нас).

А было так: першы званок з Вэбстэра прагучаў у мяне ў канцы 2010 года. Тады ж, пасля сямі дзесяткаў гадоў, ён сказаў, што выдзяляў мяне як самую сімпатычную з аднакласніц.

Пачалося ліставанне. Кожны ліст быў цікавы. Калі ж прыслаў апісанне, як у час вайны святкавалі Вялікдзень у Італіі, стала ясна, што мой карэспандэнт мае пісьменніцкія здольнасці. З такой высновай пагадзіўся і спадар Чарняўскі, які таксама наладзіў з ім кантакты.

У выніку Мікалай Махнач стаў аўтарам унікальных успамінаў.

**Яўгенія ЧАПЛІНСКАЯ, вёска Літва, Маладзечанскі раён.**



Фота з вокладкі кнігі "Доўгая дарога да свабоды".

**Мікалай Махнач.**

## Доўгі шлях да свабоды

### Пра бацькоў

Трэба мне вярнуцца назад на гадоў так 86, да 19 снежня 1923 года, у Валожын, дзе я нарадзіўся. Бацькі мае жылі тады на вуліцы Касцельнай.

Бацька, Аляксандр Сцяпанавіч Махнач, нарадзіўся ў Валожыне ў 1884 годзе. Маці, Кацярына Піліпаўна Таўгень, з'явілася на свет у Казельшчыне недзе ў апошняй дэкадзе 19 стагоддзя.

Бацька скончыў трохкласнае народнае пачатковае вучылішча ў Валожыне. Гаварыў чыста па-расейску, па-польску, ну, і па-беларуску, вядома, а яшчэ ня дрэнна гаварыў па-яўрэйску.

Як на той час, калі над нашым народам панаваў "из Божей милости" цар Аляксандр 3-ці, мой бацька быў пісьменным чалавекам.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, ён апынуўся ў царскай арміі, у часці сувязі, пры тэлефонах, дзе дасягнуў рангу старшага ўнтэрафіцэра. Па вайне вярнуўся ў Валожын на свае тры гектары зямлі, але больш – ні кала ні двара, а трэба было з нечага пачынаць.

Не ведаю, як там дайшло да спаткання маіх бацькоў, але пажаніліся. У пасаг маці далі зруб на хату, кароўку, нейкага кабанчыка, ну, і, пэўна, пару ці больш курачак. Пабудаваліся на Касцельнай вуліцы, дзелячы двор са сваякамі – сям'ёй Грышчыкаў. Так пачалі мае бацькі гаспадарыць у абноўленай Рэчы Паспалітай.

Праз год у сям'і нарадзілася дачушка, ды хутка амерла. На наступны год нарадзіўся я, якраз на дзень святога Міколы, 19 снежня 1923 года. Вось мяне і ахрысцілі Міколам. Два гады пазней нарадзілася мая сястрычка, Валя.

Бацькі нашы гаравалі, каб неяк пражыць на гаспадарцы, якая была "завялікая, каб памерці, але замалая, каб жыць у дастатку".

У 1928 годзе бацькі перасяліліся на скрыжаванне цяперашніх вуліц Чапаева і Мічурына, да так званага Рову. Наша сядзіба да вайны была апошняй на левым баку гасцінца, што вёў на Сугвазды.

### Школьная пара

Прайшоў час, і ў 1931 годзе я дарос да школы. Аднаго дня бацька кажа маці: "Каця, заўтра сходзі і запішы Колю ў школу". Пачуўшы гэтыя словы, я спалохаўся, хоць бацька мяне трохі рыхтаваў да школы, вучыў чытаць і пісаць па-польску і па-руску.

Назаўтра раніцай па сняданні я збег з дому і схаваўся на Гузоўшчыне, дзе былі тады агароды, у каноплях, дзе прасядзеў некалькі гадзін. Урэшце галодны і з балючай галавой прыйшоў дахаты, дзе мяне чакалі занепакоеныя і разгневаныя бацькі. Прызнаўся, дзе я быў і з якой прычыны. Бацька паглядзеў на мяне гнеўна, урэшце ўсміхнуўся, маці таксама, і абышлося без пакарання. На наступны дзень мяне ўсё ж запісалі ў школу.

Мой першы школьны год пачаўся на вуліцы Садовай, дзе якраз пабудавалі новую школу. Зразумела, навучалі нас толькі на польскай мове. Маёй першай настаўніцай была пані Шаблоўская, якая, памятаю, адносілася да нас, дзяцей беларускіх і польскіх, наколькі гэта было магчыма, аднолькава.

Яна была невялікага росту, кругленькая, як слімка, і заўсёды ўсмешлівая. Праз два гады ці тры прыйшло няшчасце ў яе хату – неспадзявана захварэў і памёр яе адзіны пяці- ці шасцігадовы сынок.

На яго магілцы бацькі паставілі вялікі помнік – так званы "дуб", які быў зроблены нашымі сваякамі Хведарам і Сымонам Грышчыкамі. Яны мелі на Касцельнай вуліцы майстэрню, дзе рабілі гранітныя помнікі – для праваслаўных, каталікоў і яўрэяў.

Палюбіў я школу. Вучыўся нядрэнна. Бацька пільнаваў і, калі трэба было, дапамагаў, сачыў, каб выконваў хатнія заданні. Памятаю, казаў: "Сынок, як прыйдзеш са школы і з'ясі што-небудзь, адразу рабі хатнія заданні, а як закончыш – ідзі гуляць. А як пойдзеш гуляць уперад, дык гульня не будзе гульнёй, бо ўвесь час будзеш думаць, што перад сном трэба яшчэ зрабіць заданні".

Яно так і было, асабліва ў старэйшых класах.

Школа, здавалася, была вялікая і прасторная. Але і вучняў было многа, таму другія, трэція і чацвертыя класы вучыліся ў дзве змены: ад 8-й да 12-й і ад 12-й да 4-й гадзіны увечары. Адзін школьны год і я вучыўся па абедзе.

З кожным годам прыбывала і навукі. Да чытання, пісання, лічэння, спеву і гімнастыкі дабавіліся прырода, гісторыя, геаграфія. Пазней – граматыка і літаратура, арыфметыка, геаметрыя і фізіка. Апроч гэтага, адводзіліся па дзве гадзіны на тыдзень на рэлігію і ручныя заняткі, майстраванне, а дзяўчаты вышывалі і вязалі кручком. Дзяўчаты яшчэ даглядалі школьны агарод.

### Дапамога па гаспадарцы

Як і ўсім сялянскім дзецям, мне і сястры, апроч навукі, трэба было яшчэ дапамагаць бацькам па гаспадарцы – свінням травы нарваць, дроў і вады прынесці, каня запрэгчы, баранаваць і, вядома, пасвіць кароў.

Я, маючы 12 гадоў, і даць навучыўся. Ды нямала і яшчэ чаго даводзілася рабіць дома і ў полі. З жывёлы былі ў нас конь, дзве кароўкі, два-тры парсючкі, дзве авечкі, якія на лета аддаваліся ў "пашу", ну, і каля 20 курэй з пеўнем. І абавязкова кот ці котка.

**Мікалай МАХНАЧ, ЗША.**

**Працяг будзе.**

---

**КАЛЯНДАР**

**440 гадоў** назад (1573) Сымон Будны прыехаў у мястэчка Лоск Валожынскага раёна ў якасці прапаведніка і пачаў друкаваць свае працы ў друкарні, якая там існавала.

***

**400 гадоў** назад (1613) ксёндз Г.Сакалоў ахвяраваў Будслаўскаму касцёлу ікону святой Багародзіцы. Ікона "Маці Божая Будслаўская" з'яўляецца адной з самых галоўных каталіцкіх святыняў.

***

**370 гадоў** назад (1643) закончылася будаўніцтва касцёла бернардынцаў у мястэчку Будслаў – помніка архітэктуры позняга барока.

***

**8 лютага.** 120 гадоў з дня нараджэння Антона Неманцэвіча (1893–1943), першага экзарха беларускай уніяцкай царквы, выдаўца, публіцыста, педагога.

***

**9 лютага.** 100 гадоў з часу першай пастаноўкі (1913) камедыі Янкі Купалы "Паўлінка". Паказ ажыццявіў Беларускі музычна-драматычны гурток на вечарыне ў Вільні. Ролю Паўлінкі выканала Соф'я Маркевіч (Маркевічанка). На прэм'еры прысутнічаў і сам аўтар, які спецыяльна прыехаў з Пецярбурга.

***

**50 гадоў** назад (1963) на Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе атрыманы першы бензін.

***

**9-15 лютага.** 450 гадоў таму (1563) маскоўскія войскі на чале з Іванам 4 Жахлівым захапілі Полацк і ўзялі гараджан у палон.

***

**10 лютага.** 145 гадоў з дня нараджэння Каруся Каганца (сапр. Казімір Карлавіч Кастравіцкі,1868–1918), беларускага пісьменніка і мастака.

***

**12 лютага.** 180 гадоў з дня нараджэння Івана Сцебута (1833-1923), аднаго з заснавальнікаў навукова раслінаводства на Беларусі. З яго імем звязанае з'яўленне жаночай сельскагаспадарчай адукацыі (Сцебутаўскія курсы).

***

**70 гадоў** з дня нараджэння (1943) Міхася Тычыны (Міхаіла Аляксандравіча), беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка.

***

**13 лютага.** 95 гадоў з часу прыняцця (1918) дэкрэта СНК РСФСР аб стварэнні Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкама) пры Наркамаце па справах нацыянальнасцей РСФСР.

***

**14 лютага.** 100 гадоў з дня нараджэння Віталя Цвіркі (1913–1993), жывапісца, народнага мастака Беларусі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Месяцавы каляндар

## садавода і агародніка на 2013 год



**Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2013 год. Улік квадраў Месяца, становішча Месяца ў знаках задыяка. Рэкамендацыі для садаводаў і агароднікаў. Уплыў неспрыяльных, у тым ліку сатанінскіх дзён. Новае: парады і падказкі траўнікам і грыбнікам.**

**Заўсёды памятайце, што на добрыя вынікі ў агароднай справе і ў садзе ўплываюць не толькі тэрміны правядзення работ, але таксама і агульныя ўмовы вегетацыі раслін. Звяртайце ўвагу на надвор'е. Арыентуйцеся на агратэхнічныя рэкамендацыі. Комплекснае прымяненне агратэхнічных канонаў і парад месяцавага календара дазволіць парадаваць сябе і сваіх блізкіх добрым ураджаем.**

## Першае паўгоддзе

### Люты

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 8-10 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 11-12 | Сяўба зеляніны і гародніны на падваконні або ў зімовых цяпліцах. Рэкамендуюцца паліў, унясенне ўгнаенняў |
| 13-14 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Рэкамендуецца барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 15-17 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 18-19 | Рэкамендуецца рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 20-22 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба гародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 23-25 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 26 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 27-28 | Сяўба зеляніны і пасадка цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы, падкормка кветак |

### Сакавік

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1-3 | Рэкамендуецца пасадка большасці клубневых культур, акрамя бульбы. Не рэкамендуецца саджаць дрэвы. Эфектыўныя абрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 4-5 | Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |
| 6-7 | **Не рэкамендуецца перасадка кветак.** Спрыяльны час для пасадкі бульбы, радыскі, бручкі, рэпы |
| 8-9 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў |
| 10 | Рэкамендуюцца пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 11-12 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца падрыхтоўка глебы пад сяўбу – узворванне, рыхленне, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. |
| 13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуюцца падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |
| 14-16 | Рэкамендуецца сяўба салаты і капусты. Абрэзка дрэў і кустоў |
| 17-18 | **Не рэкамендуецца пасадка травяністых культур,** але час падыходзіць для кустоў і павойных раслін. Выдаленне лішніх парасткаў, праполка, мульчыраванне. Добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 19-21 | Рэкамендуецца сяўба на расаду таматаў, капусты, агуркоў, перцу. У адкрыты грунт – салаты, пятрушкі, кропу, рэвеню |
| 22-23 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Спрыяльны час для падрыхтоўкі градаў і газонаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 24-26 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне.** З кветак рэкамендуецца саджаць астры, крокусы, вяргіні, гладыёлусы, касачы. Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 28 | Рэкамендуецца пасадка клубневых культур (бульбы, рэпы, радыскі) |
| 29-30 | Рэкамендуецца пасадка большасці клубневых культур, акрамя бульбы. Не рэкамендуецца саджаць дрэвы. Эфектыўныя абрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 31 | Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |

### Красавік

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |
| 2-3 | **Не рэкамендуецца перасадка кветак.** Спрыяльны час для пасадкі бульбы, радыскі, бручкі, рэпы |
| 4-5 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў, праполку |
| 6-7 | Рэкамендуюцца пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення угнаенняў. Яравізацыя бульбы |
| 8-10 | Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка. Рэкамендуецца падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. |
| 11-12 | Рэкамендуецца сяўба салаты і капусты. Абрэзка дрэў і кустоў |
| 13-14 | Рэкамендуецца пасадка бабовых і павойных раслін (руж, якая плятуцца, суніц, вінаграду). Выдаленне лішніх парасткаў, праполка, мульчыраванне. Добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 16-17 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур: таматаў, капусты, агуркоў, перцу, гарбузоў, кавуноў, дыняў, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў. Яравізацыя бульбы |
| 18-20 | Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур. Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Спрыяльны час для падрыхтоўкі градаў і газонаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 21-22 | Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне. Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 23-24 | Рэкамендуецца пасадка костачкавых фруктовых дрэў, стручковых культур (гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы), а таксама ўсіх кветак |
| 25 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы. Яравізацыя бульбы. |
| 26 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Эфектыўныя прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 27-28 | Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |
| 29-30 | **Не рэкамендуецца перасадка кветак.** Спрыяльны час для пасадкі бульбы, радыскі, бручкі, рэпы |

### Май

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1-2 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў, праполку |
| 3-5 | Рэкамендуюцца пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, бульбы, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў. Яравізацыя бульбы |
| 6-7 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. |
| 8-9 | Рэкамендуецца пасадка ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур, бульбы. Абрэзка дрэў і кустоў |
| 10 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка** |
| 11-12 | Рэкамендуецца пасадка бабовых і павойных раслін (руж, якія плятуцца, суніц, вінаграду). Выдаленне лішніх парасткаў, праполка, мульчыраванне. Добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 13-15 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур: таматаў, капусты, агуркоў, перцу, гарбузоў, кавуноў, дыняў, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў, бульбы. |
| 16-17 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Спрыяльны час для падрыхтоўкі градаў і газонаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 18-19 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне.** Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 20-22 | Рэкамендуецца пасадка костачкавых фруктовых дрэў, стручковых культур (гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы), а таксама ўсіх кветак |
| 23-24 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў, бульбы. Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 25 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка** |
| 26 | Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |
| 27-28 | **Не рэкамендуецца перасадка кветак.** Спрыяльны час для пасадкі бульбы, радыскі, бручкі, рэпы. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў |
| 29-30 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў. |
| 31 | Рэкамендуюцца пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |

### Чэрвень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Рэкамендуюцца пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 2-3 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. |
| 4-6 | Рэкамендуецца пасадка ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур. Абрэзка дрэў і кустоў |
| 7 | **Не рэкамендуецца пасадка і перасадка травяністых культур.** Эфектыўныя выдаленне лішніх парасткаў, праполка, культывацыя, мульчыраванне, добра змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне) |
| 8 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка** |
| 9-11 | Рэкамендуецца пасадка і перасадка большасці культур: гарбузоў, кавуноў, дыняў, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў. Добра развіваюцца нізкарослыя расліны, горш – высокія, бо цяжка набывае сярэднюю трываласць (таму не рэкамендуецца саджаць высакарослыя памідоры). |
| 12-13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Рэкамендуецца пасадка кустоў і дрэў, збор і сушка садавіны і караняплодаў. Варта правесці касьбу з мэтай запавалення росту траў. Спрыяльны час для мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення ранніх гатункаў сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 14-16 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць агародніну, фруктовыя дрэвы, садзіць на насенне.** Добра прымуцца дэкаратыўныя расліны, не прызначаныя для плоданашэння, у прыватнасці, шыпшыннік. З кветак рэкамендуецца саджаць павойныя расліны. Касьба замарудзіць рост травы |
| 17-18 | Рэкамендуюцца пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Таксама рэкамендуецца пасадка костачкавых фруктовых дрэў. Эфектыўныя паліў і касьба. Выдатная пара для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў, догляду за пакаёвымі раслінамі |
| 19-20 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы. Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 21-22 | Рэкамендуецца пасадка хуткарослых культур: зеляніны, цыбулі, часнаку, перцу, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, шпінату, шыпшыны, сліў. Рэкамендуюцца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Пасаджаныя ў гэты дзень дамашнія кветкі хутчэй расцвітуць |
| 23-24 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуюцца рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка, касьба |
| 25-26 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца збіраць збожжавыя і караняплоды, касіць, праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў, прышчыкванне, праполка |
| 27-28 | Рэкамендуюцца пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Нарыхтоўка варэння і салення. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 29-30 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. Збор ураджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка гародніны і садавіны |

# Праходжанне Месяцам знакаў задыяка ў 2012 годзе (час мясцовы)

| Знак задыяка | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Авен | 16/19.06 | 13/4.51 | 12/14.17 | 8/18.01 | 6/4.03 | 2/9.33<br>29/16.06 | 27/0.28 | 23/10.12 | 19/19.57 | 17/4.17 | 13/10.39 | 10/16.05 |
| Цялец | 19/4.36 | 15/13.07 | 14/22.08 | 11/6.21 | 8/13.09 | 4/18.53 | 2/0.42<br>29/16.06 | 25/16.13 | 22/1.33 | 19/10.26 | 15/17.49 | 12/23.40 |
| Блізняты | 21/17.04 | 18/0.49 | 17/9.08 | 13/17.12 | 11/0.21 | 7/6.31 | 4/12.21<br>31/18.41 | 28/2.07 | 24/10.34 | 21/19.14 | 18/3.06 | 15/9.40 |
| Рак | 24/5.59 | 20/4.52 | 19/21.55 | 16/5.49 | 13/12.56 | 9/19.15 | 7/1.13 | 3/7.29<br>30/14.32 | 26/22.24 | 24/6.35 | 20/14.22 | 17/21.16 |
| Леў | 26/17.20 | 23/1.11 | 22/9.49 | 18/18.13 | 16/1.37 | 12/7.57 | 9/13.48 | 5/19.57 | 2/18.12<br>29/10.57 | 26/19.11 | 23/2.56 | 20/9.47 |
| Дзева | 1/20.34<br>29/2.27 | 25/9.52 | 24/18.49 | 21/4.08 | 18/12.32 | 14/19.25 | 12/1.11 | 8/6.56 | 4/13.43 | 1/21.51<br>29/6.44 | 25/15.10 | 22/22.18 |
| Шалі | 4/4.10<br>31/9.35 | 27/16.01 | 27/0.31 | 23/10.24 | 20/20.07 | 17/4.18 | 14/10.40 | 10/16.07 | 6/22.12 | 4/5.59<br>31/15.21 | 28/0.59 | 25/9.16 |
| Скарпіён | 6/9.08 | 2/15.01 | 1/8.52<br>19/4.47 | 25/13.25 | 22/23.55 | 19/9.38 | 16/17.24 | 12/23.17 | 9/4.44 | 6/11.32 | 2/20.35<br>30/7.02 | 27/16.57 |
| Стралец | 8/11.28 | 4/18.45 | 4/0.10<br>31/6.13 | 27/14.31 | 25/0.49 | 21/11.30 | 18/20.54 | 15/4.04 | 11/9.35 | 8/15.21 | 4/23.14 | 2/9.31<br>29/20.37 |
| Казярог | 10/11.54 | 6/20.54 | 6/3.13 | 2/8.35<br>29/15.21 | 27/0.28 | 23/11.08 | 20/21.38 | 17/6.25 | 13/12.55 | 10/18.17 | 7/0.43 | 4/9.49<br>31/21.01 |
| Вадалей | 12/12.01 | 8/22.16 | 8/6.01 | 4/11.41 | 1/17.19<br>29/0.48 | 25/10.26 | 22/21.06 | 19/7.06 | 15/15.05 | 12/20.59 | 9/2.29 | 6/9.53 |
| Рыбы | 14/13.49 | 11/0.19 | 10/9.18 | 6/16.00 | 3/21.25<br>11/0.48 | 27/11.31 | 24/21.22 | 21/7.43 | 17/16.58 | 15/0.05 | 11/5.36 | 8/11.34 |

## Квадры Месяца (час мясцовы)

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Маладзік | 11/22.44 | 10/10.21 | 11/22.51 | 10/12.36 | 10/3.29 | 8/18.57 | 8/10.51 | 7/0.51 | 5/14.37 | 5/3.35 | 3/15.51 | 3/3.23 |
| Першая чвэрць | 19/2.45 | 17/23.31 | 19/20.27 | 18/15.32 | 18/7.35 | 16/20.25 | 16/6.19 | 14/13.57 | 12/20.09 | 12/2.03 | 10/8.58 | 9/18.12 |
| Поўня | 27/7.39 | 25/23.27 | 27/12.28 | 25/22.58 | 25/7.26 | 23/14.33 | 22/21.16 | 21/4.45 | 19/14.13 | 19/2.38 | 17/18.16 | 17/12.29 |
| Апошняя чвэрць | 5/6.59<br>31/21.58 | 3/16.57<br>30/7.54 | 5/0.53<br>29/20.44 | 3/7.37<br>28/12.35 | 2/14.15<br>28/6.56 | 27/2.41 | 25/22.29 | 25/16.49 | | | | |

# Садоўніцтва і агародніцтва ў залежнасці ад фазы Месяца

## Фазы Месяца:

**Маладзік.** Доўжыцца тры дні разам з днём да даты маладзіка і на наступны дзень пасля даты маладзіка.

**1-я квадра.** Час ад маладзіка, калі Месяц нябачны, аж да асвятлення паловы паверхні – Месяц расце.

**2-я квадра.** Перыяд ад асвятлення паловы паверхні Месяца аж да поўні, калі Месяц поўнасцю бачны – Месяц расце.

**Поўня.** Працягваецца тры дні: разам з днём перад датай поўні і днём пасля даты поўні.

**3-я квадра.** Перыяд ад поўні, калі Месяц бачны цалкам, да закрыцця паловы яго паверхні – Месяц меншае.

**4-я квадра.** Ад часу, калі бачна палова паверхні Месяца, да маладзіка, калі Месяц становіцца нябачным – Месяц меншае.

## Калі Месяц меншае (3-я і 4-я квадры)

Лепшы час для перасадкі і абрэзкі дрэў. Расліны хутчэй аднаўляюцца і прыжываюцца на новым месцы, а падрэзаныя губляюць менш сокаў. У гэты час наземныя часткі расліны малаадчувальныя да пашкоджанняў.

Рэкамендуюцца сяўба, пасадка цыбульных раслін, бабовых, караняплодаў, барацьба з пустазеллем і шкоднікамі. Гэта спрыяльны час для збору фруктаў і агародніны, прызначаных на доўгае захоўванне, – яны будуць даўжэй заставацца свежымі. Гэтак жа і са зрэзанымі кветкамі, яны застануцца свежымі даўжэй.

## Калі Месяц расце (1-я і 2-я квадры)

Час спрыяльны для сяўбы і пасадкі ліставой агародніны і пладовых дрэў і кустоў. Добрая пара для падрыхтоўкі расады, прышчэпак і работ, звязаных з глебай, – угнойванне і падкормка. Карані раслін найменш уразлівыя на розныя пашкоджанні. Калі вы рашыліся на абрэзку, то яна не павінна быць вельмі інтэнсіўнай, бо гэта можа стаць прычынай страты раслінай сокаў.

Добры час для збору пладоў і агародніны для непасрэднага спажывання – у гэты час яны маюць найбольшую харчовую вартасць і самыя смачныя. Таксама і на збор зёлак – як траў, так прыпраў і спецый. Яны найбольш пахучыя і карысныя.

**Калі Месяц у поўні.** Сяўба гародніны: капусты, морквы, цыбулі і радыскі. Добры час для пасадкі бульбы, памідораў і г.д. Найлепшы час для ўгнаення раслін і такіх працэдур, як праполка, барацьба з пустазеллем і шкоднікамі, рыхленне, прарэджванне новых раслін. Не трэба актыўна абразаць дрэвы і кусты, рабіць прышчэпкі. У саму поўню лепш нічога не садзіць і не сеяць.

**Маладзік.** Самы час для эфектыўнай барацьбы з хваробамі раслін, шкоднікамі. Гэта таксама час на знішчэнне пустазелля, хворых і непатрэбных парасткаў. Работы павінны праводзіцца за дзень перад кульмінацыяй маладзіка ці днём пазней пасля яе.

Не рэкамендуецца сяўба і пасадка раслін і любыя працы, якія б маглі пашкодзіць карані (напрыклад, рыхленне).

## Сатанінскія дні

Не займайцеся важнымі агароднымі справамі ў сатанінскія дні, бо вялікага плёну вы не дачакаецеся.

**Гэта 9-ы, 15-ы, 23-ы і 29-ы месяцавыя дні.** У гэтыя дні, раяць астролагі, трэба быць асабліва абачлівымі, не займацца важнымі і адказнымі справамі. Калі гэта спраектаваць на садаводства і агародніцтва, то зразумела, што трэба пазбягаць адказных і важных работ у садзе і агародзе. У першую чаргу гэта сяўба і ўсе работы, звязаныя з закладкай новага ўраджаю. Перачакайце гэты час і зрабіце запланаванае крыху пазней.

| **Люты** | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 23 | 03.02.13 | 1:57 | 04.02.13 | 3:13 |
| 29 | 09.02.13 | 7:41 | 10.02.13 | 8:09 |
| 9 | 18.02.13 | 11:32 | 19.02.13 | 12:14 |
| 15 | 24.02.13 | 17:25 | 25.02.13 | 18:38 |
| **Сакавік** | | | | |
| 23 | 05.03.13 | 3:22 | 06.03.13 | 4:17 |
| 29 | 11.03.13 | 6:57 | 11.03.13 | 22:51 |
| 9 | 19.03.13 | 10:57 | 20.03.13 | 11:52 |
| 15 | 25.03.13 | 17:32 | 26.03.13 | 18:48 |
| **Красавік** | | | | |
| 23 | 03.04.13 | 3:02 | 04.04.13 | 3:41 |
| 29 | 09.04.13 | 5:43 | 10.04.13 | 6:04 |
| 9 | 18.04.13 | 11:43 | 19.04.13 | 12:48 |
| 15 | 24.04.13 | 18:59 | 25.04.13 | 20:21 |
| **Май** | | | | |
| 23 | 03.05.13 | 2:42 | 04.05.13 | 3:06 |
| 29 | 09.05.13 | 4:58 | 10.05.13 | 3:29 |
| 9 | 17.05.13 | 11:42 | 18.05.13 | 12:50 |
| 15 | 27.05.13 | 23:37 | 29.05.13 | 0:15 |
| **Чэрвень** | | | | |
| 23 | 01.06.13 | 1:34 | 02.06.13 | 1:55 |
| 29 | 07.06.13 | 4:04 | 08.06.13 | 4:43 |
| 9 | 16.06.13 | 12:57 | 17.06.13 | 14:10 |
| 15 | 22.06.13 | 20:27 | 23.06.13 | 21:25 |
| **Ліпень** | | | | |
| 23 | 01.07.13 | 0:44 | 02.07.13 | 1:08 |
| 29 | 07.07.13 | 4:18 | 08.07.13 | 5:15 |
| 9 | 16.07.13 | 14:24 | 17.07.13 | 15:41 |
| 15 | 22.07.13 | 20:40 | 23.07.13 | 21:13 |
| 23 | 31.07.13 | 0:08 | | |

| **Жнівень** | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 23 | | | 01.08.13 | 0:44 |
| 29 | 06.08.13 | 5:12 | 07.08.13 | 0:51 |
| 9 | 14.08.13 | 14:40 | 15.08.13 | 15:51 |
| 15 | 20.08.13 | 19:39 | 21.08.13 | 20:05 |
| 23 | 28.08.13 | 23:23 | 30.08.13 | 0:09 |
| **Верасень** | | | | |
| 29 | 04.09.13 | 5:15 | 05.09.13 | 6:24 |
| 9 | 13.09/13 | 15:42 | 14.09.13 | 16:28 |
| 15 | 19.09.13 | 18:53 | 20.09.13 | 19:17 |
| 23 | 27.09.13 | 23:49 | 29.09.13 | 0:49 |
| **Кастрычнік** | | | | |
| 29 | 04.10.13 | 6:31 | 05.10.13 | 3:35 |
| 9 | 12.10.13 | 15:07 | 13.10.13 | 15:40 |
| 15 | 18.10.13 | 17:43 | 19.10.13 | 18:09 |
| 23 | 26.10.13 | 23:39 | 28.10.13 | 0:43 |
| **Лістапад** | | | | |
| 29 | 02.11.13 | 6:38 | 03.11.13 | 7:56 |
| 9 | 11.11.13 | 14:37 | 12.11.13 | 15:00 |
| 15 | 17.11.13 | 17:12 | 18.11.13 | 17:51 |
| 23 | 26.11.13 | 0:40 | 27.11.13 | 1:49 |
| **Снежань** | | | | |
| 29 | 02.12.13 | 8:01 | 03.12.13 | 9:12 |
| 9 | 10.12.13 | 13:30 | 11.12.13 | 13:52 |
| 15 | 16.12.13 | 16:31 | 17.12.13 | 17:21 |
| 23 | 25.12.13 | 0:41 | 26.12.13 | 1:51 |
| 29 | 31.12.13 | 7:53 | | |

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

**Каляндар на другое паўгодзе будзе ў наступным нумары.**

 



ГАРАДОШНЫ СПОРТ

# Новы сезон гарадкоў адкрыты



Фота fisclub.ru.

Маладзечна прымае спаборніцтвы больш за 30 гадоў запар.

**МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат краіны ў закрытым памяшканні па традыцыі стаў першым пасля навагодніх святаў значным турнірам, які сабраў мацнейшых беларускіх спартсменаў.**

Прадстаўнікі сталічнай вобласці і самой сталіцы, а таксама Гродзеншчыны і Магілёўшчыны спаборнічалі пад дахам добра ўсім знаёмай спецыялізаванай залы ў сярэдняй школе №2. На старт мужчынскага і жаночага раздзелаў выйшлі разам каля сарака ўдзельнікаў.

Пераможцам сярод мужчын даволі нечакана стаў Валеры Фаміч, які прыехаў з Салігорска. За тры дні турніру, каб выбіць 90 фігур, ён патраціў 133 біты. Другое і трэцяе месцы ў цэсная барацьбе з лідарам засталіся за больш тытулаванымі маладзечанцамі **Генадзем Сушко** і **Дзмітрыем Шайко**, які патрацілі па 135 біт.

Сярод жанчын з пакасчыкам 142 біты лепшай стала Марыя Смірнова, прадстаўніца Бярозаўкі. Гэта моцная гарадошніца, якая цяпер дамінуе ў міжнародным рэйтынгу. Значна ад яе адсталі маладзечанкі **Таццяна Яршэвіч** і **Галіна Кулак**, якія занялі другое і трэцяе месцы.

Галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Аляксандр Кулак расказаў, што яго парадавалі сваім выступленнем на гэтым чэмпіянаце 14-гадовыя юнакі з Маладзечна **Арцём Туравец** і **Уладзімір Сядлоўскі**. Увогуле генерацыя 1998 года нараджэння вельмі перспектыўная. Летась у камандным раздзеле хлопцы выйгралі першынство Еўропы сярод равеснікаў.

Дарэчы, у сярэдзіне студзеня пад дахам усё той жа спецыялізаванай залы адбыўся чэмпіянат Маладзечанскага раёна сярод юнакоў па пяці ўзроставых катэгорыях і сярод дзяўчат без падзелу на ўзросты. Усіх на старт выйшла каля сямідзесяці ўдзельнікаў. У выніку лепшымі сталі старэйшыя юнакі **Антон Драздовіч** (вучыцца ў Беразінскім у аграрна-тэхнічным прафесійным ліцэі) і **Павел Невяровіч** (СШ №2), вучні сярэдніх класаў **Уладзіслаў Глінскі** (СШ №7) і **Ілья Семеж** (СШ №2). **Ілья Макарэвіч** (СШ №11) першынстваваў сярод навічкоў 10-гадовага ўзросту, а 12-гадовая **Ліля Суханава** (СШ №2) – сярод дзяўчат.

### Маладзечанцы паедуць на міжнародныя спаборніцтвы

Такім чынам, пачатак сезона пакладзены. Акрамя самых розных унутраных рэспубліканскіх стартаў, як заўсёды, нашы спартсмены прымуць удзел і ў міжнародных спаборніцтвах.

Галоўнымі тут будуць этапы розыгрышу Кубка Еўропы. Сёлета іх запланаваныя чатыры. Па традыцыі такі статус будзе мець і дамашні маладзечанскі турнір у красавіку, прысвечаны памяці ахвяраў аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі.

Ён пройдзе ў дваццатк раз. Вядома, захочацца паспяхова выступіць на першынстве Еўропы, якое плануецца на чэрвень у Эстоніі ў горадзе Локса. Тут спаборнічаць давядзецца ў трох разнавіднасцях гарадкоў: звычайных класічных, а таксама з ужываннем палегчаных палімерных бітаў, а таксама, як кажуць, "фінскіх", на пясчанай пляцоўцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

БАРАЦЬБА ДЗЮДО

# Дзяўчынкі сярод лепшых

**СМАРГОНЬ. Шасцёра выхаванцаў мясцовай спартыўнай школы (дырэктар Валеры Юрчанка), выступілі з 30 студзеня па 2 лютага на спаборніцтвах у Бабруйску.**



Фота judo.by.

Юлія Цыбоўская падчас узнагароджвання.

Гэта былі Алімпійскія дні моладзі Рэспублікі Беларусь сярод юнакоў і дзяўчат 1997-1998 гадоў нараджэння. Адно "золата" і адну "бронзу" заваявалі спартсменкі, якіх падрыхтаваў трэнер **Юры Гулецкі**.

У вагавай катэгорыі да 63 кілаграмаў **Юлія Цыбоўская** атрымала тры перамогі і па праву стала пераможцай турніру. Дарэчы, гэта дзяўчына нядаўна перайшла на новы ўзровень падрыхтоўкі, паступіла ў рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву ў Мінску.

У вагавай катэгорыі да 44 кілаграмаў **Жанна Асіповіч** выйграла стартавы паядынак, потым пацярпела паражэнне, потым зноў выйграла. У выніку яна заняла трэцяе месца, хаця па ўзросце была на год маладзейшая за сваіх сапернікаў.

Пятыя пазіцыі ў сваіх вагавых катэгорыях занялі **Дзмітры Багуцкі**, **Алеся Лазар** і **Вікторыя Радзевіч**, сёмую пазіцыю – **Аляксей Ягела**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

СПАРТЫЎНЫЯ ПЛЯЦОЎКІ

# Стадыён для пляжнага валейбола з'явіцца ў Маладзечне




Макет забяспечаны Мікалаем ШРЫМФАМ.

Такой бачаць пляцоўку праекціроўшчыкі. Магчыма, праект будзе крыху зменены падчас працы.

**МАЛАДЗЕЧНА. Новая спартыўная пляцоўка будзе будавацца сёлета. Горад зможа прымаць спаборніцтвы па пляжным валейболе.**

Новы спартыўны аб'ект будзе знаходзіцца ў гарадскім парку імя Перамогі.

– У праекце відаць, што з аднаго боку стадыёна запланаваны амфітэатр, які будзе бачны з галоўнай вуліцы горада – з Вялікага Гасцінца, – гаворыць загадчык аддзела фізкультуры, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Мікалай Шрымф**. – Трыбуны разлічаныя на 1500 месцаў. Да таго ж стадыён будзе шматфункцыянальны: на ім можна будзе гуляць не толькі ў пляжны валейбол, але і міні-футбол. Памеры пляцоўкі будуць прыдатныя да двух відаў спорту.

Частка трыбун будзе разборная – колькасць месцаў можна будзе кантраляваць у залежнасці ад колькасці гледачоў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НАВІНЫ

## У лідарах – футбалісты "Зубраняці"

**МЯДЗЕЛ. У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры прайшлі гульні 8 тура чэмпіянату раёна па міні-футболе.**

30 студзеня гульцы аддзела адукацыі абыгралі каманду індывідуальных прадпрымальнікаў з лікам 7:1, прадстаўнікі Нарацкага сельсавета – каманду ЖКГ (5:0), каманда Мядзела – супрацоўнікаў РАУС (7:2). Зафіксаваная першая нічыя ў чэмпіянаце. З лікам 4:4 разышліся прадстаўнікі Крывіцкага сельсавета і райваенкамата.

2 лютага каманда НДЦ "Зубраня" абыграла гульцоў райаддзела па надзвычайных сітуацыях з лікам 5:0, а ПМС – футбалістаў аддзела па фізкультуры, спорце і турызме (8:2).

Пасля васьмі тураў з 24 ачкамі ў чэмпіянаце лідзіруе каманда НДЦ "Зубраня", паведаміў дырэктар Мядзельскага ФАЦ **Міхаіл Чаркасаў**. Другія – гульцы аддзела адукацыі з-за розніцы мячоў, на трэцім месцы – каманда Мядзела.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Каманда Вілейскай ЖКГ перамагла ў турніры па валейболе

**ВІЛЕЙКА. 1 і 2 лютага прайшоў зімовы кубак па валейболе.**

Спаборніцтвы адбываліся ў спартыўных залах фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" і райаддзела ўнутраных спраў. Прынялі ў іх удзел сем камандаў, паведаміў інструктар-метадыст фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**. Чатыры лепшыя прадоўжылі барацьбу ў фінальнай частцы.

Пераможцай стала каманда Вілейскай ЖКГ, якая не прайграла ніводнага матча. Уладальнікі другога і трэцяга месцаў вызначаліся па дадатковых паказчыках. У камандаў была роўная колькасць ачкоў, розніца выйграных і прайграных партый. Давялося лічыць розніцу набраных ачкоў у асабовых сустрэчах. У выніку другое месца заняла каманда міні-ЦЭЦ, трэцяе – Вілейскай мэблевай фабрыкі, чацвертае – РСУП "Першы Беларускі".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ХАКЕЙ

# "Лядовыя пінгвіны" – лідары

**МАЛАДЗЕЧНА. "Лядовыя пінгвіны" сталі пераможцамі ў чарговым матчы чэмпіянату аматарскай хакейнай лігі.**

У нядзелю, 3 лютага, на гасцявым лёдзе яны ўпэўнена перамаглі ў Раўбічах у каманды "Epam Ice Need'z". Матч скончыўся з лікам 1:6.

Мясцовыя хакеісты выйшлі на першае месца ў сваім дывізіёне "Навічок".

Сярод маладзечанцаў закінутымі шайбамі адзначыліся **Уладзімір Сянько**, **Сяргей Трацэцкі** і **Валеры Танчэўскі**. На рахунку Валерыя – тры апошнія галы матча.

У скарбонцы "пінгвінаў" цяпер 25 ачкоў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



 

# Камент-эксперт

**Присылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Мікалай Шрымф: “У футбалістаў вочы павінны свяціцца ад выгляду мяча, а не грошай”

Шрымф гаворыць, што ў камандзе другой лігі павінны гуляць маладыя хлопцы. Тады ўзнікае пытанне, дзе гуляць гэтым хлопцам, калі яны пасталеюць, а ў вышэйшую ці першую лігу перайсці не змогуць. Няўжо ім завязваць з футболам? У любой камандзе павінна быць група футбалістаў з досведам. Побач з імі расце моладзь. Пытанне ў тым, як гэтым вопытным зарабіць сабе грошы. ***Саханюк.***

Але справа ў тым, што зарабляць гэтыя грошы яны мусяць самі. Выбачайце, але палову грошай аддаваць футбалістам – лагічна? Паглядзіце, у якіх умовах  дзяўчаты займаюцца спартыўнай гімнастыкай ў Маладзечне! Там снарады не мяняліся з 1975 года! Дзеці пазабівацца могуць, а вы пра грошы для дарослых мужыкоў..... ***Маладзечанка.***

Вось пра футбалістаў ва ўсіх газетах пішуць, прыцягваюць да іх увагу. “Рэгіянальнай газеце” дзякуй, кожны тыдзень пішаце аб матчах і гульцах. Вядома, часам крытыкуеце, але часцей за ўсё хваліце. Вось калі б пра мяне кожны тыдзень у газетах пісалі, то я грошай за сваю працу асабліва і не патрабаваў бы. ***Орел.***

### Рух паміж Мінскам і Маладзечнам быў спынены. Два дарожна-транспартныя здарэнні за 20 хвілін ля Крыніцы

Каля дзевяці гадзін раніцы на адрэзку дарогі Краснае-Радашкавічы была такая галалёдзіца, што рухаліся ўсе не больш за 40 км у гадзіну, шмат машын было з’ехаўшы ў снег з дарогі. Пад Пяцюлеўскай гарой стаяла калона шматтоннікаў, не сталі рызыкаваць браць гару з ходу. А службы дарожныя спяць, як заўжды. І ім далёка напляваць, што машыны б’юцца, людзі калечацца і нават гінуць з-за іхняй злачыннай бяздзейнасці. Тут ужо за такое не ДАІ і не дзяржкантроль павінен прымаць нейкія меры ў адносінах да кіраўнікоў гэтай установы, а наогул павінна звярнуць увагу пракуратура. Тут не штрафы, а санкцыі трэба выстаўляць тым дарожным "КІРАЎНІКАМ", каб кампенсавалі нанесеную шкоду ў ДТЗ. ***Алесь Раткевіч.***

### Выратавальнікі будуць кантраляваць прыватныя дамы

Толькі ў канцы зімы выратавальнікі надумаліся кантраляваць прыватныя дамы ў акцыі, як папярэдзіць выпадкі пажараў. А ці не занадта позна яны адумаліся гэта рабіць? Глядзіце, колькі пажараў адбылося за прайшоўшы час і колькі жыццяў гэтыя пажары панеслі. У пачатку восені гэту акцыю трэба было праводзіць, а не цяпер. Крыху спазніліся, шаноўныя. Але ў нас, як заўсёды, пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца. ***Зямляк.***

### 15-гадовы хлопец з Мінска ўкраў каня ў Відзеўшчыне

Напэўна, вельмі "цяжкая" праца была ў хлопца, што ён за нядзельны "стаж" запрасіў аж 400 даляраў.  Наогул, хлопец мастак развешваць макарону на вушы. Ды і суразмоўцы не лепшыя. Добра хоць тое, што пакупнік каня здагадаўся сфатаграфавацца з прадаўцом, а так – шукай ветру ў полі. ***Зямляк.***

### Тых, хто разбурыў помнік паўстанцам, расстралялі немцы

Работа патрэбная. Шкада, што праца вядзецца колькімі энтузіястамі. Здзіўляе абыякавасць дзяржавы да сваёй гісторыі. Уражанне, што краіна не мае павагі ні да сябе, ні да тых, хто яе ствараў. Усё змасхалена ўшчэнт. ***Алесь.***

**Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”**

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**10 нядзеля 12.00** П.Васючэнка. **“НОВЫ КАЛАБОК”** (сучасная музычная казка)
**17 нядзеля 12.00** Э.Т.Гофман. **“ШЧАЎКУНЧЫК”** (калядная казка)
**24 нядзеля 12.00** Е. Чарняк. **“ВАСІЛІСА ПРЫГАЖУНЯ”** (чарадзейная казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

**Мінскі абласны драматычны тэатр**

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**13 серада 11.30, 15 пятніца 11.30, 16 субота 10.30, 22 пятніца 11.30** — **“БАЛАГАНЧЫК”** (феерычная клаўнада) *Арцём Белазёраў*

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**9 субота 17.00 ПРЭМ’ЕРА. “БЫВАЙ, КАНФЕРАНСЬЕ!”** (спектакль-канцэрт у 2-х аддзяленнях) *Рыгор Горын*

**13 серада 19.00 “ПСІХААНАЛІТЫК ДЛЯ ПСІХААНАЛІТЫКА”** (адкрытая камедыя для дарослых у 2-х дзеях) *Дыяна Балыка*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,* тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.**

E-mail: modt@tyt.by.

**ВЕЧАРЫНА**

# Прайшла вечарына Аляксандра Хазяніна



Аляксандр Хазянін і вядучая вечара кіраўнік суполкі “Агмень” паэтка Таццяна Атрошанка.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу, 1 лютага, у малой зале Палаца культуры прайшла  творчая вечарына журналіста і пісьменніка Аляксандра Хазяніна.**

Арганізавала імпрэзу “Каб падабрэў свет і чалавек у ім” літаратурная суполка “Агмень”, якой кіруе паэтка **Таццяна Атрошанка.**

На вечарыну прыйшлі сябры, блізкія, былыя калегі Аляксандра Хазяніна, літаратары. Пра героя вечарыны, які незадоўга да гэтага адзначыў сваё 65-годдзе, расказвалі бібліяфіл **Міхась Казлоўскі**, паэт-песеннік **Кастусь Цыбульскі**, галоўныя рэдактары “Маладзечанскай газеты” **Аляксандр Лазоўскі** і “Рэгіянальнай газеты” **Аляксандр Манцэвіч**, паэтка **Таіса Трафімава**. Гучалі песні. Вяла вечарыну Таццяна Атрошанка.

**Мікола ГАЙДУК.**

**Даведка “РГ”. Аляксандр Хазянін.** Журналіст, пісьменнік. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Пухавіцкім раёне. Скончыў журфак. Працаваў у валожынскай раённай газеце “Працоўная слава”, галоўным рэдактарам маладзечанскай аб’яднанай газеты “Святло камунізму” (цяпер – “Маладзечанская газета”). Аўтар кніг нарысаў, мініяцюр, эсэ, апавяданняў “Сярод добрых людзей” (1997), “Скарбонка мудрасці” (2007). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза журналістаў Беларусі.



**РЭПЕРТУАР кінатэатра “Радзіма”**

**11 – 21 ЛЮТАГА**

Камедыя, прыгоды **“БІЛЕТ НА VEGAS”** (Расія, ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, старэйшым за 16 год)
**11 лютага – у 21.00**
**12 лютага - у 19.00, 21.00**
**13-14 лютага – у 17.00, 19.00, 21.00**
Кошт білетаў – 22 000 рублёў

Трылер “**ЗМЯРКАННЕ. САГА. СВІТАНАК: ЧАСТКА 2”** 2D (ЗША, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**11 лютага – у 18.30**
Кошт білетаў –35 000 рублёў

Таранціна-вестэрн **“ДЖАНГА ВЫЗВАЛЕНЫ”** (ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, старэйшым за 18 гадоў)
**15-21 лютага – у 18.00, 21.00**
Кошт білетаў – 30 000 рублёў (2 серыі)

Анімацыйнны камедыйны блокбастар **“ЛЕДНІКОВЫ ПЕРЫЯД 4: КАНТЫНЕНТАЛЬНЫ ДРЭЙФ”** (ЗША, 2012, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**15, 20-21 лютага – у 16.00**
**16-17 лютага – у 14.00, 16.00**
Кошт білетаў – 20 000 рублей

Тэлефон для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 5 | | | 2 | 8 | | |
| | | 2 | | | | 7 | | |
| 9 | | | | 1 | | | 3 | |
| | | 7 | 1 | 6 | | 9 | | 8 |
| | 2 | | | | | | 6 | |
| 6 | | 8 | | 5 | 4 | 1 | | |
| | 5 | | | 9 | | | | 7 |
| | | 9 | | | | 3 | | |
| | | 6 | 8 | | | 5 | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку,  слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



**ГАРАСКОП (8-14 ЛЮТАГА)**

10 лютага ўступае ў свае правы год Змяі па ўсходнім календары

**Авен.** У вас узнікне імкненне прыцягнуць увагу навакольных да сябе, і, гэта цалкам магчыма, што вашы дзеянні змогуць аказаць важны ўплыў на будучыню.

**Цялец.** Удзяліце ўвагу расшырэнню свайго духоўнага і інтэлектуальнага патэнцыялу.

**Блізняты.** Запатрабуюць увагі пытанні, звязаныя са страхаваннем, падаткамі ці сумеснымі фінансамі.

**Рак.** Натхненне, выкліканае іншымі людзьмі, падштурхне вас да сумесных дзеянняў, тым больш, што дабівацца пастаўленых мэтаў аднаму будзе нашмат цяжэй, чым разам з партнёрамі.

**Леў.** Вас чакае вельмі шмат спраў – і на працы, і дома. Перыяд падыдзе для заняткаў спортам і паляпшэння сваёй фізічнай формы. Аднак памятайце пра меру, пастарайцеся неператамляцца, а яшчэ гасіце ўспышкі гневу.

**Дзева.** Рамантычныя намеры будуць увасобленыя ў рэальнасць, а ваш творчы патэнцыял будзе на пад’ёме, але куды вы яго накіруеце, вырашаць вам.

**Шалі.** Магчыма, у вас праявіцца цікавасць да гісторыі вашай сям’і. Энергетычны патэнцыя на вышыні, накіроўвайце свае сілы ў новыя сферы.

**Скарпіён.** На гэты перыяд вы будзеце хутчэй чалавекам дзеяння, чым філосафам. Толькі не дэманструйце сваё незадавальненне пры дапамозе сілы.

**Стралец.** Неабдуманыя ўчынкі з вашага боку і праяўленая неразважнасць могуць прывесці да страты значных сум грошай.

**Казярог.** Перыяд павышанай фізічнай актыўнасці. Вы будзеце ствараць ўражанне чалавека надзвычай занятага.

**Вадалей.** Вас чакаюць і радасці, і надзеі, і расчараванні, і горыч страт. Усё гэта – розныя праявы таго, што называецца “паўнатой жыцця”; да канца наступнага тыдня вы абавязкова адчуеце, што пражылі яго недарэмна.

**Рыбы.** Вы можаце з поспехам даследаваць і развіваць свой духоўны свет, лепш зразумець падзеі свайго мінулага, разабрацца ў тайных страхах і знаках, убачаных у снах.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

Камент-эксперт erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +2 | | +2 / +2 | | +1 / +1 | | -3 / 0 | |
| | 737 | → 4 | 739 | ↖ 4 | 741 | → 5 | 746 | ← 2 |
| Вільня | -1 / +2 | | 0 / +5 | | 0 / +1 | | -2 / 0 | |
| | 742 | → 3 | 740 | ↑ 6 | 745 | ↗ 6 | 751 | ↖ 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.44
Захад 18.09
Даўжыня дня 9.15

Усход 7.45
Захад 17.32
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- Як зіма без марозу, так вясна без шкоды не абыдуцца.
- Зіма ўцякае цёмнымі начамі.
- Вецер на Яфрэма (10 лютага) – да сырога года.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што можа зрабіць кожны з нас, каб захаваць культурна-гістарычную спадчыну?



**Барыс Брацук, метадыст:**

– Перш-наперш трэба любіць сваю Радзіму. А калі ты патрыёт, то духоўна-культурная спадчына будзе захоўвацца сама па сабе.



**Галіна Адамовіч, намеснік дырэктара цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча:**

– Трэба, каб людзі мовы не забылі. Сама заканчвала беларускамоўную школу, а ва ўніверсітэце прыйшлося прывыкаць да выкладання на рускай мове. Няўжо не сорамна адракацца ад свайго, роднага? Іншаземцы не паважаюць нас з-за гэтага.



**Ала Яцына, намеснік дырэктара Палаца культуры:**

– У першую чаргу трэба падтрымліваць існуючыя традыцыі, беларускую мову. Трэба прыцягваць моладзь у творчыя калектывы народна-фальклорнага накірунку. Як найлепшы прыклад такой дзейнасці, у Палацы культуры не першае дзесяцігоддзе існуе заслужаны аматарскі ансамбль песні і танца "Спадчына".



**Раіса Давідовіч, бібліятэкарка:**

– Калі б усе так беражліва адносіліся да помнікаў, да ўнікальных мясцін, але куды там. Нават кнігі выкідваюць, здаюць на макулатуру, а праз сто гадоў хопяцца па іх. А помнікі? Большасць з нас абыякавыя да іх. Праходзім міма і ўвагі не звяртаем. Без мінулага не будзе і будучага.



**Уладзімір Яцыновіч, дырэктар дзіцячай школы мастацтваў:**

– Я бачу, вядзецца вялікая праца па захаванні спадчыны: амаль у кожным горадзе існуюць музеі, моладзь удзельнічае ў народнай творчасці. Дзеткі дакранаюцца да мінулага праз фальклорныя песні, народную музыку і нясуць любоў да Радзімы далей праз усё жыццё.



**Ірына Рыбакова, настаўніца беларускай мовы і літаратуры:**

– Кожны можа прымаць актыўны ўдзел у акцыях, знаёміцца з экспазіцыямі ў краязнаўчых музеях. Ёсць жа магчымасць дапамагаць музеям. Трэба не хаваць на гарышчах калаўроты, прасы і газніцы, а перадаваць у фонды.



**Ксенія Барцэнева, навучэнка:**

– Вядома, простаму чалавеку не пад сілу ўзвесці помнік, але ведаць беларускую мову і гісторыю свайго краю, не псаваць помнікі спадчыны – абавязак кожнага.

**Падрыхтавала Ганна ФІЛІСТОВІЧ.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2013 год – другое паўгоддзе.**

## УСМІХНІЦЕСЯ!

Зайшоў сёння ў банк. Там два банкаматы. На адным вісіць аркуш з надпісам: "Прабачце, у банкамаце закончылася папера". Каля другога банкамата чарга чалавек 10. Я глянуў і пайшоў да першага банкамата. Уставіў картку, зняў грошы і сабраўся адыходзіць. І тут заўважыў, што палова чаргі ад другога банкамата кінулася да першага… Пра што яны думалі: "Няма паперы, значыць, няма на чым грошы друкаваць?…"

**Паводле anekdoti.ru.**



Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 6 (928) 8.02.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 93. Падпісана ў друк у 10.00 7.02.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.